



*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 601 Ліпень, 2013 г. Год выданьня 64

## Шаноўныя чытачы!

Сёлетні ліпень быў багаты на розныя адметныя падзеі. Не гледзячы на час летніх адпачынкаў беларускае жыцьцё на Бацькаўшчыне і ў замежжы было досыць актыўным. І пра гэта вы можаце даведацца з ліпеньскага нумара нашай газэты.

27 ліпеня дэмакратычныя сілы ў Беларусі і замежжы адначылі Дзень незалежнасьці, які быў забраны ў беларускага народа пасьля прыходу да ўлады дыктатарскага рэжыму і заменены сьвяткаваньнем 3 ліпеня.

Значную ўвагу мы надаем у гэтым выпуску такой асабліва важнай для беларускай дыяспары ліпеньскай падзеі, як Шосты зьезд беларусаў сьвету і адзначэньне 20-й гадавіны Першага зьезду беларусаў сьвету. Сусьветныя форумы беларусаў склікаюцца раз у чатыры гады, яны сьведчаць пра тое, што існуе і дзейнічае сусьветная беларуская супольнасьць, аснова якой была закладзена на тым Першым зьездзе ў ліпені 1993 году. Шмат хто з замежных беларусаў быў тады ў Менску і сёньня з дапамогаю нашых публікацый можа ўспомніць пра той узьнёслы час.

З часу ўтварэньня ў Беларусі ў 1990 годзе Згуртаваньня беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”, якое і зьяўляецца арганізатарам зьездаў, у грамадзкім жыцьці краіны ўзьнікла самастойная плынь, якая дзейнічае незалежна як ад дзяржаўных структураў, так і ад іншых грамадзкіх і палітычных сілаў і праца якой распаўсюджваецца далёка за межы краіны. Гэтая незалежнасьць каштуе Згуртаваньню шмат высілкаў ва ўмовах выразнага неспрыяньня з боку ўладаў і без належнай падтрымкі нават самога беларускага замежжа. Сёлетні зьезд паказаў, што дзейнасьць “Бацькаўшчыны” не занікла, хаця, мусім адзначыць, што значна звузілася, але ў гэтым віна не толькі Згуртаваньня, а цэлай драматычнай сытуацыі ў Беларусі.

У газэце вы знойдзеце таксама інфармацыю пра тое, хто прадстаўляў на зьездзе беларусаў ЗША. Нам хацелася б атрымаць вашыя водгукі на публікацыі пра зьезд і пра сытуацыю ў беларускім замежжы.

Раім нашым чытачам больш уважліва пазнаёміцца з пулікацыяй пра крэдытаваньне рэжыму Лукашэнкі і ягоныя наступствы для краіны.

Па ранейшаму заклікаем нашых чытачоў браць болш актыўны ўдзел у выданьні газэты і дасылаць свае допісы. Таксама нагадваем пра фінансавыя патрэбы рэдакцыі, якія забясьпечваюцца толькі вамі, нашымі прыхільнікамі і спрыяльнікамі.

*Рэдакцыя*

## Наш Дзень Незалежнасьці




27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэклярацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. Гэты важны для нашай дзяржавы дакумент стаў першым афіцыйным крокам да незалежнасьці Беларусі. Дэклярацыя абвясьціла «поўны дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь як вяршэнства, самастойнасьць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасьць яе законаў, незалежнасьць рэспублікі ў зьнешніх стасунках.

27 ліпеня было абвешчана Днём незалежнасці Беларусі.

25 жніўня 1991 года Дэклярацыя аб дзяржаўным суверэнітэце атрымала статус канстытуцыйнага закона, на падставе якога былі ўнесеныя зьмены і дапаўненьні ў Канстытуцыю 1978 года. Новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь была прынятая 15 сакавіка 1994 года.

Афіцыйныя ўлады адмянілі сьвята пасьля рэфэрэндуму 1996 года, на якім Лукашэнка атрымаў неабмежаваныя паўнамоцтвы. Дзень незалежнасьці пачалі адзначаць 3 ліпеня ў гадавіну вызваленьня Менска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Дэмакратычная грамадзкасьць, як і раней, адзначае Дзень незалежнасьці менавіта 27 ліпеня.

У Беларусі 26 ліпеня, моладзь з "Альтэрнатывы" ўзьняла бел-чырвона-белыя сьцягі каля ўніверсама "Беларусь" у Мінску. Актывісты былі затрыманыя, былі таксама затрыманыя і журналісты.



# Шосты зьезд беларусаў свету




Зьезд праходзіў 23-24 ліпеня 2013 ў Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханэса Рау ў Менску.

Сёлетні форум меў адметную асаблівасьць, ён адбываўся ў 20 гадавіну Першага зьезду беларусаў сьвету. Тады, у ліпені 1993 году, на Бацькаўшчыну ўпершыню прыехалі беларусы з цэлага сьвету, у залі опэрнага тэатру прысутнічалі больш за 1200 удзельнікаў. Гэты першы форум стаўся адной з самых значных падзеяў навейшай гісторыі Беларусі. Адзначэньне юбілейнай даты было лейтматывам сёлетняй сустрэчы беларусаў на Бацькаўшчыне.

Шосты зьезд, як і ўсе папярэднія, быў арганізаваны Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”. Гэтыя форумы Згуртаваньне праводзіць раз у чатыры гады. Непасрэдна на зьездзе сёлета прысутнічала 239 дэлегатаў і 95 гасьцей з 18 краін замежжа і самой Беларусі. У залі адразу была заўважная зьмена пакаленьняў. Калі раней ні разу не прапусьцілі такую падзею многія з найстарэйшых дзеячаў беларускай дыяспары, то сёлета іх было значна менш. Не было чутно і гукаў сурмы, пад якія распачыналіся папярэднія форумы: летась памёр дудар Уладзімір Пузыня.

У якасьці гасьцей і запрошаных прысутнічалі прадстаўнікі дыпляматычных прадстаўніцтваў ЗША, Польшчы, Нідэляндаў, Украіны, а таксама ад дзяржаўных установаў Беларусі: міністар культуры Барыс Сьвятлоў, упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў Леанід Гуляка, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Міхаіл Рыбакоў, прадстаўнікі міністэрства замежных спраў, міністэрства культуры, апарата упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў, міністэрства экономікі, палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.

Асноўнай тэмаю зьезда была вызначаная - «Беларуская нацыя ва ўмовах глябалізацыі: выклікі і магчымасьці».

Пасьля вітаньня ўдзельнікаў зьезда ад імя Згуртаваньня, зь якім выступіла кіраўнік “Бацькаўшчыны” Алена Макоўская, удзельнікаў зьезду прывітаў на беларускай мове міністар культуры Барыс Сьвятлоў. Зь вітальным словам ад Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта выступіў пратаярэй Сергій Гардун, прафэсар Менскай духоўнай акадэміі. У вітаньні ад мітрапаліта Філарэта была падзяка «за ваш клопат аб захаваньні беларускай мовы». Вітаньне ад апостальскага візітатара для грэка-каталікоў Беларусі зачытаў айцец Яўген Усошын.

Далей былі зачытаныя прывітаньні ад прадстаўнікоў суполак і дзеячаў беларускага замежжа, якія напярэдадні зьезду прыйшлі на адрас Згуртаваньня. Найперш, Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, дзе гаварылася: «Наша жаданьне паказаць усяму сьвету, што Беларусь жыве і будзе жыць вечна. Ад нас залежыць, каб нас паважалі, у тым ліку і за цудоўную мову, якую толькі мы можам захаваць, бо мова – душа народа». Сп-ня Сурвілла заклікала беларусаў свету купіць па асобніку кнігі Уладзіміра Арлова «Краіна Беларусь» па-ангельску і падараваць сваім прэм’ер-міністрам ці кангрэсмэнам, каб пашырыць веды пра Беларусь.

З асноўнымі дакладамі выступілі: кіраўнік ЗБС “Бацькаўшчына” Алена Макоўская, дасьледчыца беларускай эміграцыі Натальля Гардзіенка, старшыня Гуртка Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Вашынгтоне Алеся Кіпель і сябра Рады Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алег Рудакоў. Яны акрэсьлілі асноўныя актуальныя праблемы беларускай дыяспары і шляхі іх вырашэньня. У прыватнасьці, былі адзначаныя неабходнасьць прыняцьця Закона аб беларусах замежжа, наладжваньня супрацы ўладаў Беларусі з беларусамі замежжа на дэмакратычных умовах, папулярызацыі беларускай мовы сярод замежных беларусаў, пошуку спосабаў супраціву асіміляцыі беларусаў, якія выехалі ў замежжа (асабліва ў дачыненьні да новай эміграцыі), арганізацыі ўзаемадзеяньня эміграцыі розных пакаленьняў, разьвіцьця сістэмы беларускага школьніцтва ў дыяспары.

*У прэзыдыюме зьезду: вядзе пасяджэньне Валеры Герасімаў – намесьнік старшыні Рады ЗБС, зьлева-направа – Хвядар Нюнька, Алег Рудакоў, Радзім Гарэцкі, Алена Макоўская, Ніна Шыдлоўская*



Далей прамаўлялі іншыя выступоўцы з розных краін, якія прадстаўлялі розныя пакаленьні і розныя погляды, шмат хто браў слова і ўдзельнічаў у дыскусіях на пасяджэньнях тэматычных сэкцый - “Магчымасьці ўнутраных сіл Беларусі і дыяспары па ўмацаваньні нацыянальнай ідэнтычнасьці”, “Новая” і “старая” эміграцыі: супраца на карысьць нацыянальнага разьвіцьця” , “Культурная спадчына беларускага замежжа». Зьезд даў усім магчымасьць выказацца і агучыць сваё меркаваньне па розных хвалюючых тэмах.

Вельмі востра гучала праблема мовы, праблема захаваньня нацыянальнай ідэнтычнасьці. Нягледзячы на тое, што дэлегаты выказвалі розныя погляды на двухмоўе і на тое, ці можна лічыць беларусам таго, хто не размаўляе па-беларуску, панавала адзінадушша, што беларуская мова – аснова нацыі. Па-рознаму ацэньвалі і стаўленьне беларускіх дыппрадстаўніцтваў да беларускіх суполак у эміграцыі.

Пад час зьезду была арганізаваная і культурная праграма. У гонар 20-годзьдзя Першага зьезду беларусаў сьвету, дзякуючы сябрам Аб’яднаньня мастакоў-беларусаў Балтыі “Маю гонар” і асабіста яго старшыні Вячкі Целеша, МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” арганізавала выставу карцін, якія былі ўпершыню прадстаўленыя ў Беларусі, а таксама выставу фотаздымкаў Першага зьезду беларусаў свету. У фае была разьмешчаная выстава, падрыхтаваная Натальляй Гардзіенкай (Беларусь) і Лявонам Юрэвічам (ЗША) “У літарах і вобразах: спадчына беларускай эміграцыі на захадзе”, у якую ўвайшлі прадметы матэрыяльнай культуры, рупліва сабраныя беларускімі цэнтрамі Англіі і ЗША. Выстава экспанавалася ў Беларусі ўпершыню.

Напрыканцы першага дня зьезду ўсіх удзельнікаў чакаў цудоўны канцэрт, у першай частцы якога выступалі беларускія калектывы і салісты з замежжа: іркуцкі гурт аўтэнтычнага сьпеву “Крывічы”, спявачкі Алена Капылова з Новасібірска і Анастасія Трубянкова з Томска, дуэт чэшскіх беларусаў Сяргея Доўгушава і Аляксандра Ясінскага. Таксама прагучалі вершы Іны Снарскай, беларускай паэткі з Украіны. У другой частцы музычнага вечару выступіў малады беларускі калектыў “Сваё неба” і вядомыя гурты “Pawa” і “Палац”.

*Прамаўляе Алена Макоўская*



Таксама ў межах зьезда прайшла прэзэнтацыя культурных праектаў, у тым ліку кніг, выдадзеных прадстаўнікамі беларускай дыяспары. Адмыслова да 20-годзьдзя Першага зьезду была выдадзеная кніга Ганны Сурмач “Беларусь бязь межаў”. “Беларусь бязь межаў” – гэта тая беларуская супольнасьць, якую мы будуем разам, пашыраючы беларускую прысутнасьць

на цэлы сьвет, без вагі на дзяржаўныя межы", - зазначыла ў прывітальным лісьце аўтар кнігі.

Адбыліся прэзэнтацыі электроннай бібліятэкі "Камунікат", кнігі Юрася Бушлякова "Жывая мова", музычнага дыска "Пецярбургскі сшытак", што зьяўляецца часткай вялікага праекту пад назвай "Беларускі Пецярбург", ініцыяванага сябрам Вялікай Рады Згуртаваньня, гісторыкам Міколам Нікалаевым. Андрэй Залатак прадставіў ужо даступную для спампоўваньня ў APP STORE першую беларускую азбуку для платформы IOS, створаную камандай грамадзкай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" і выдавецтва Kinderfox. Агулам было прэзэнтавана 10 праектаў і кніг, над якімі працавалі беларусы дыяспары і якія магчыма зацікавяць беларусаў як на Радзіме, так і за яе межамі.

Дасьледчыца Натальля Гардзіенка ўручыла на зьезьдзе першую ўзнагароду ад Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк) гісторыку Алесю Пашкевічу. «Акт удзячнасці БІНіМу» — гэта ўзнагарода, якая будзе ўручацца штогадова за дасьледаваньні гісторыі беларускай эміграцыі.

Галоўным вынікам працы зьезду стала прыняцьце дакумэнтаў. Перш за ўсё, гэта зварот да Нацыянальнага сходу, ураду і прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб стварэньні заканадаўчай і нарматыўна-прававой асновы для ўзаемадзеяньня зь беларусамі замежжа, а таксама праграма "Беларусы замежжа" (2013—2017), якая ставіць мэту захаваць беларускую прысутнасьць у сьвеце ў розных яе праявах, кансалідаваць беларускую нацыю і ўмацаваць грамадзянскую супольнасьць у Беларусі.

Былі прынятыя таксама наступныя рэзалюцыі: "Беларуская мова – галоўны фактар захаваньня беларускай нацыі", "Аб захаваньні гістарычна-культурнай спадчыны", "Аб транслітэрацыі найменьняў беларускіх геаграфічных аб'ектаў", а таксама выніковая рэзалюцыя зьезду.

Акрамя таго была прынятая адмысловая заява "Аб акце добрай волі", дзе гаворыцца: "Мы заклікаем улады Беларусі зрабіць акт добрай волі і вызваліць зь месцаў зьняволеньня людзей, якія знаходзяцца там у знак пакараньня за свае палітычныя перакананьні".

Пасьля прыняцьця выніковых дакумэнтаў былі праведзеныя выбары кіруючых органаў ЗБС "Бацькаўшчына". Кіраўніком Згуртаваньня была пераабраная Алена Макоўская, старшынёй Рады - Ніна Шыдлоўская. Яны падзякавалі дэлегатам за аказаны ім давер і падкрэсьлілі, што займаць кіроўную пасаду ў грамадзкай арганізацыі - гэта вялікі гонар, але ў той жа час вялікая праца і адказнасьць. Намесьнікамі старшыні сталі Валеры Герасімаў і Барыс Стук. Таксама быў абраны новы склад Вялікай Рады, якая традыцыйна складаецца зь беларускіх сяброў аб'яднаньня і замежных. Гэтым разам у склад Рады ўвашлі 50 чалавек ад Беларусі і аднаведна такая ж колькасьць ад замежжа. Рашэньнем зьезда 13 сябраў Вялікай Рады атрымалі статус Ганаровага сябра. Інстытут ганаровага сяброўства замацаваны ў статуце "Бацькаўшчыны" спэцыяльна для адзначэньня тых асобаў, якія на працягу многіх гадоў працуюць на карысьць Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".

Напрыканцы зьезда прайшло першае паседжаньне новаабранай Вялікай Рады, дзе адбылося ўручэньне ганаровым сябрам памятных мэдалёў да 20-годзьдзя Першага зьезду беларусаў свету.

*Паводле Інфармацыйнага цэнтру МГА "ЗБС "Бацькаўшчыны*
*(больш інфармацыі пра зьезд можна знайсьці на сайце: www.zbsb.org)*

# Пра зьезд і вакол зьезда

## Алеся Кіпель: «Размаўляла па-беларуску і ніхто мне не грубіў»



Дэлегатам на Шостым зьезьдзе беларусаў сьвету ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня была вылучаная Алеся Кіпель – старшыня Гуртка БАЗА ў Вашынгтоне. Сп-ня Алеся брала ўдзел у працы форуму, выступіла са зьмястоўным дакладам і зачытала прывітаньне зьезду ад імя Галоўнай управы БАЗА. Яна таксама зачытала пэрсанальныя вітаньні зьезду вядомых беларускіх дзеячаў у дыяспары - кіраўніка Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку сп. Вітаўта Кіпеля і сп. Янкі Запрудніка, ад якога прэзэнтавала ягоную новую кнігу "Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі. Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948-2011 гг.)", выдадзеную нядаўна ў ЗША.

Па прыезьдзе ў Менск сп-ня Алеся паведаміла ў інтэрвію для Радыё Свабода: «Я толькі што, у нядзелю, прыехала, і калі на аэрадроме паразмаўляла з усімі па-беларуску, то ніхто не грубіў мне, нават калі адказвалі па-расейску. Ня ведаю, ці гэта прагрэс, але добры знак».

Некаторыя дэлегаты хвалілі ўлады Беларусі за добрыя дарогі і сацыяльную палітыку. У адказ іншыя заклікалі да адказнасьці за свае словы і да таго, каб быць праўдзівымі. Так выказаўся адзін з найбольш вядомых дзеячаў беларускага замежжа зь Літвы Хведар Нюнька:



«Ня ўсё так гладка, як складаецца ўражаньне пасьля некаторых выступленьняў на зьезьдзе. Таму мы павінны гаварыць праўду. Паколькі я паабяцаў гаварыць праўду, то павінны сказаць, у прыватнасьці, што беларусы Літвы кінуты сваёй дзяржавай. Калі беларуская мова ня будзе ў грамадзкім ужытку ў Беларусі, то нас чакае згуба ня толькі незалежнасьці, але дзяржаўнасьці і самога беларускага этнасу».

Гэтую думку падтрымаў закладальнік і былы шматгадовы старшыня Іркуцкага Таварыства беларусаў імя Яна Чэрскага Алег Рудакоў, чыя грамадзкая дзейнасьць можа служыць прыкладам для усіх беларускіх суполак у дыяспары: «На жаль, няма нейкага пляну альбо пэрспэктывы ўзаемадзеяньняў з нашым таварыствам па падтрымцы нацыянальных культурных аб'яднаньняў, як афіцыйных органаў Рэспублікі Беларусь, так і дзяржаўных органаў, якія існуюць у нас, у Іркуцку. Мы існуем і дзейнічаем на грамадзкіх пачатках, за свой уласны кошт. Але адначасна ў нас стварыўся вельмі ініцыятыўны гурток, які самаахвярна працуе, не шкадуючы ні свайго часу, ні сілаў, ні нават свайго здароўя. І мы ўжо маем новую, маладую плынь, якая, спадзяюся, выкарыстае нашы напрацоўкі і пойдзе далей».




Са Злучаных Штатаў на зьезьдзе прысутнічала і прамаўляла сп. Кацярына Фаронда, кіраўнік пакуль нам мала вядомай арганізацыі Беларуска-амэрыканская асацыяцыя. Але падаем тут выгляд сайту гэтай асацыяцыі, дзе ў якасьці сымбаля абраны лукашэнкаўскі сьцяг, што выразна сьведчыць пра сутнасьць і прызначэньне арганізацыі.

Менавіта сп. Фаронда пазьней прадстаўляла амэрыканскіх беларусаў у перадачы Радыё Свабода 29 ліпеня пад назваю «Чаму беларусы разьяднаныя ў дыяспары?», дзе выказала сваё бачаньне сытуацыі сярод беларускай дыяспары ў Амэрыцы:

«На мой погляд, справа ў тым, што тыя беларусы, якія зьяжджаюць у ЗША, не спрабуюць аб'яднацца ў нейкія суполкі ці далучыцца да тых суполак, што ўжо існуюць, таму што існыя беларускія суполкі, якія пазыцыянуюць сябе як прадстаўнікі Беларусі, як твар Беларусі, на вялікі жаль, не прымаюць іх у свае шэрагі, хаця і кажуць, што яны адкрытыя суполкі. Не прымаюць у свае шэрагі




*Працяг на 4-й бачыне*

## Пра зьезд і вакол зьезда

# Алеся Кіпель: «Размаўляла па-беларуску і ніхто мне не грубіў»

Працяг з 3-й бачыны

беларускіх габрэяў, рускамоўных беларусаў, ставяцца крытычна і нават зьняважліва да беларусаў, якія не размаўляюць на беларускай мове. І гэта тое, аб чым я казала на зьезьдзе: мы павінны прыцягнуць усіх беларусаў, незалежна ад іх этнічнай прыналежнасьці і палітычных поглядаў, каб аб'яднацца ў вялікую дыяспару…

Я бачу мэту маёй асацыяцыі — прыцягнуць усіх тых беларусаў, якія аказваюцца за мяжой, каб мы ўсе разам маглі зрабіць штосьці значнае на карысьць нашай радзімы, прапагандаваць беларускую культуры і такім чынам прапагандаваць Беларусь».

Сп. Фаронда, як выглядае, ставіць перад сваёй арганізацыяй грандыёзныя мэты і мае намер выступаць у якасьці нейкай аб'яднаўчай сілы для беларускай эміграцыі ў Амэрыцы а таксама прапагандаваць беларускую культуру праз расейскую мову. Але, як вядома, мала рэальныя жаданьні часта не супадаюць з магчымасьцямі.

Старэйшая ў ЗША беларуская арганізацыя - Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА), якую сп. Фаронда ў згаданай перадачы назвала закрытай арганізацыяй, ня ставіць перад сабою такіх глябальных мэтаў і ня лічыць гэта патрэбным. БАЗА, найперш, захоўвае і папулярызуе ў Амэрыцы беларускую ідэнтычнасьць і культуру і ня мае намеру захоўваць той савецкі лад жыцьця і тую савецкую культуру, што прынесьлі сюды шматлікія дэнацыяналізаваныя расейскамоўныя эмігранты з былога СССР і зь Беларусі таксама. Для такіх эмігрантаў беларускасьць як на Радзіме, так і ў замежжы не ўяўляла ніякай каштоўнасьці, так што штучнае аб'яднаньне з такой эміграцыяй наўрад ці прынясе добрыя вынікі для захаваньня беларускай нацыянальнай прысутнасьці ў ЗША.

Выхадцам з былога СССР, а таксама і некаторым журналістам з Радыё Свабода, варта ўжо забыць самы папулярны савецкі лёзунг пра адзінства. Не адзінства і шэрасьць, а разнаітасьць упрыгожвае сьвет. Гэта натуральная зьява, што на эміграцыі існуюць самыя розныя плыні, групы людзей, сходныя па інтарэсах, па сваім бачаньні свайго месца ў грамадзтве краіны пражываньня і ўсе яны маюць права ствараць свае арганізацыі, ісьці сваім шляхам таксама і ў справе дапамогі Бацькаўшчыне-Беларусі. Як выхадцы з адной краіны, мы можам належаць да розных арганізацый, але можам знаходзіць, па патрэбе, агульныя справы і нешта вырашаць разам. Аднак, ня трэба нікога прымушаць да штучнага адзінства і тым больш дазваляць сабе беспадстаўную крытыку іншых.

БАЗА не зьяўляецца закрытаю арганізацыяй, сярод нашых сяброў ёсьць і расейскамоўныя і людзі розных нацыянальнасьцяў. Задзіночаньне не вітае толькі тых, хто супрацоўнічае зь беларускім рэжымам і лабіруе ў замежжы ягоныя інтарэсы, а таксама з пагардаю ставіцца да гісторыі Беларусі, да беларускай мовы і культуры. Так што з арганізацыямі ці асобамі, якія не належаць да іх ліку, мы гатовыя да супрацоўніцтва на падставе ўзаемнай зацікаўленасьці.

*Ганна Сурмач*

# Прывітаньне Шостаму зьезду беларусаў сьвету ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Шаноўныя дэлегаты, суродзічы, сябры і паплечнікі!

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сардэчна вітае вас на гэтым ужо Шостым па ліку Сусьветным форуме беларусаў. Ён адбываецца ў год адзначэньня 20-й гадавіны Першага зьезду беларусаў сьвету, які стаў адной з важнейшых і, як сёньня ўжо выразна бачыцца, лёсавызначальных падзеяў навейшай гісторыі Беларусі.

Той Першы форум заклаў падмурак яднаньню беларускай нацыі ў рамках цэлага сьвету, былі пераадолены межы, якія разьядноўвалі нас – сыноў і дачок беларускай зямлі, раскіданых па розных кутках зямной кулі. Пройдзеныя 20 гадоў сьведчаць пра тое, што гэты падмурак стаўся трывалым і на ім разбудавалася вялікая будыніна – сусьветная беларуская супольнасьць, якая жыве сваім жыцьцём, пашыраецца і разьвіваецца. Адбываецца гэта дзякуючы няспыннай працы ўсіх нас па захаваньню і падтрыманьню беларускай прысутнасьці ў розных краінах сьвету.

Ад імя беларусаў Злучаных Штатаў Амэрыкі мы выказваем глыбокую ўдзячнасьць усім на Бацькаўшчыне, хто аказвае нам падтрымку і дапамогу ў арганізацыі нашага нацыянальнага жыцьця на чужыне.

У першую чаргу нашая падзяка адрасуецца Згуртаваньню беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", якое ініцыявала ідэю сусьветнага яднаньня беларусаў і ўжо больш за два дзясяткі гадоў адказна, мужна і мэтанакіравана ідзе па шляху практычнай рэалізацыі гэтай ідэі ў самых неспрыяльных для такой дзейнасьці ўмовах у самой Беларусі. Беларускае нацыянальнае жыцьцё брутальна нішчыцца на нашай Бацькаўшчыне, і мы ня можам разьлічваць на прадуктыўную дапамогу беларускім асяродкам з боку ўладаў краіны-маці. Увесь гэты вялізны абсяг працы лягае цяжарам на плячах сьвядомай беларускай грамадзкасьці на Радзіме і ў замежжы. Гэта наша з вамі адказнасьць і наш сьвяты абавязак - захаваць арганізаваную на сёньняшні час беларускую супольнасьць у замежжы, як прадстаўніцтва нашай старажытнай нацыі ў сьвеце і як патэнцыяльную сілу дзеля аказаньня дапамогі самой Беларусі ў справе захаваньня яе дзяржаўнай незалежнасьці і нацыянальнай тоеснасьці, што знаходзяцца сёньня пад рэальнай пагрозаю зьнішчэньня.

Мы выказваем нашу салідарнасьць з усімі беларускімі грамадзкімі аб'яднаньнямі ў розных краінах сьвету, які падтрымліваюць беларускае нацыянальнае жыцьцё, гуртуюць эміграцыю, дапамагаюць людзям выжываць на чужыне і пачувацца годна ў сваёй грамадзе. Выказваем таксама нашу гатовасьць больш актыўна супрацоўнічаць з нашымі суродзічамі, бо менавіта гэта будзе фармаваць шэрагі замежных беларусаў у адзіную дзейсную сілу, здольную на рэалізацыю новых задач і праграмаў, якія ставіць перад намі сучаснасьць.

Жадаем усім вам, дарагія браты і сёстры, новых посьпехаў у вашай дзейнасьці, мужнасьці, вытрываласьці, непахіснай адказнасьці і волі ў справе захаваньня беларускай сусьветнай супольнасьці і яе далейшага плённага разьвіцьця.

Жыве Беларусь!

*Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Нью-Ёрк*

# Вяртаньне "загубленага": развагі-вітаньне Шостаму зьезду беларусаў сьвету

Два, чатыры ці колькі яшчэ мільёнаў беларусаў у замежжы? Лічбы гэтыя, бясспрэчна, імпазантныя, бо якраз у мільёнах трэба ацэньваць колькасьць ліцьвіноў – тутэйшых: віленскіх, віцебскіх, менскіх, гардзенскіх, магілеўскіх, берасьцейскіх, гомельскіх, якія цягам стагодзьдзяў пакідалі Бацькаўшчыну, каб, як казаў паэт :"У чужой старонцы шукаць сабе хлеба".

Ніхто не лічыў, колькі выяжджала, адно толькі амаль кожны ў нашым краі ведаў, што нехта зь сям'і, са знаёмых ці суседзяў зьехаў у "край далёкі" – у Сібір, ці за акіян – зьехаў, ды ягоны сьлед згубіўся, прапаў. Нашы людзі ў імпэрыі прападалі, імпэрыя пра іх статыстыку не вяла. Імпэрская статыстыка пра беларусаў маўчала.

Але прыйшоў час і напрыканцы мінулага дваццатага стагодзьдзя імпэрыя затрашчала і пачала развальвацца, тады і беларусы змаглі сказаць "сваё слова". І сказалі, так што гэтае слова разьнеслася па цэлым сьвеце і назаўсёды адбілася ў гісторыі нацыі адной зь найбольш важных падзеяў.

У ліпені 1993 году ў Менску быў скліканы Першы зьезд беларусаў сьвету. Лічу гэтую падзею манументальнай. Гэта быў народны крок-высілак вярнуць у дэмаграфічны актыў нацыі "загубленыя" мільёны, давесьці сучаснасьці адну з прычынаў нашых сёньняшніх праблемаў, злучыць эміграцкую расьцярушаную Беларусь з Бацькаўшчынаю, стварыць адзіную беларускую сусьветную супольнасьць – пабудаваць новую Беларусь бязь межаў у рамках усяго сьвету.

На будынку опэрнага тэатру, дзе праходзіў Першы зьезд, былі напісаны купалаўскія словы-заклік: "На Сход, на Усенародны Сход!". Той Сход вызначаў шляхі ў лепшую будучыню нацыі, і гэтай мэты мы пакуль не дасягнулі. Таму Усебеларускі Форум мусіць працягваць сваю працу, зьбірацца раз у чатыры гады і заяўляць пра тое, што беларусы ёсьць і будуць гаспадарамі сваёй зямлі.

Шлю найлепшыя пажаданьні ў працы Шостаму Зьезду беларусаў сьвету!

Жыве Беларусь на Бацькаўшчыне і ў замежжы!

*Вітаўт Кіпель*

# Да 20-й гадавіны Першага зьезду беларусаў сьвету

*Гэтае інтэрвію было апублікава напярэдадні Шостага з'езду беларусаў сьвету ў газэце «Народная воля»ў Менску, падаем яго тут зь некаторымі аўтарскімі праўкамі.*

## Ганна СУРМАЧ: «Першы зьезд беларусаў свету нарадзіў надзею на лепшую Беларусь»

*Да свайго абраньня старшынёю Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» Ганна Сурмач 23 гады працавала ў сыстэме дзяржаўных архіваў Беларусі. Зь іх апошнія 10 гадоў узначальвала Дзяржаўны архіў-музэй літаратуры і мастацтва. Займалася зборам архіваў эміграцыі і далучылася да дзейнасьці ЗБС «Бацькаўшчына».*

*У 1993 годзе ад ЗБС была прызначана кіраўніком Працоўнай групы па падрыхтоўцы Першага зьезду беларусаў сьвету. Дэлегаты таго зьезду ацанілі намаганьні сп. Ганны ў арганізацыі і правядзеньні зьезда і вылучылі яе кандыдатуру на пасаду старшыні.*

*Пасьля абраньня старшынёю Рады - галоўнага выканаўчага органа ЗБС дзеля грамадзкіх спраў, а таксама па прапанове кіраўніцтва дзяржаўнай архіўнай службы Ганна Сурмач пакінула любімую працу і пасьпяховую кар'еру. Шэсьць гадоў працавала на гэтай адказнай пасадзе ў ЗБС, але пасьля Другога зьезду, восеньню 1999 году вымушаная была выехаць з краіны не па сваёй волі, а па прычыне перасьледу з боку ўладаў. Жыла працяглы час у Чэхіі і працавала пяць гадоў у Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода як аўтар праграмы «Беларускае замежжа», брала актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці беларусаў Прагі. Потым выехала да сям'і ў ЗША, дзе працягвае займацца грамадзкімі справамі.*

*У сваім інтэрвію журналісту газэты Мікалаю Дубавіцкаму Ганна Сурмач прыгадала падрабязнасьці і невядомыя факты, датычныя гісторыі Першага зьезду беларусаў сьвету, што прайшоў у ліпені 1993 году ў менскім Опэрным тэатры.*

**МД:** Наколькі складана было сабраць дэлегатаў на першы зьезд?

**ГС:** ЗБС «Бацькаўшчына» было створана 10 верасьня 1990 году на ўстаноўчай канфэрэнцыі ў Менску. Ідэя належыць беларускай інтэлігенцыі, арганізацыйную ролю ўзяў на сябе пісьменьнік Яўген Лецка, які і быў абраны першым кіраўніком арганізацыі. У другой палове 80-х гадоў пачаліся кантакты зь беларускім замежжам, ужо нікога не перасьледавалі за тое, што атрымліваеш лісты з Амэрыкі ці Ангельшчыны. Сёй-той ужо пабываў на Захадзе, сустракаліся з суродзічамі, бачылі, што тыя гавораць па-беларуску, шануюць сваю культуру, трымаюць яе на выгнаньні. Напрыканцы 80-х Беларусь наведалі Данчык і танцавальны калектыў зь Нью-Ёрку «Васілёк». Пачалося сапраўднае адкрыцьцё «Беларускай Амэрыкі».

Тады пад беларускім замежжам пераважна разумелася эміграцыя ў заходнім свеце. Аднак распад савецкай імпэрыі і стварэньне на ягоных руінах новых незалежных дзяржаваў нечакана выявілі новую рэальнасьць – існаваньне беларускай эміграцыі і на Усходзе. Савецкі Саюз быў адзіным, і беларусы на ягоных прасторах не пачувалі сябе эмігрантамі. Апынуўшыся ў новых краінах, нашы суродзічы адчулі патрэбу ў самавызначэньні і гуртаваньні. Для ЗБС адкрылася шырокае поле дзейнасьці ў блізкім замежжы, як тады мы ўмоўна пачалі называць былыя рэгіёны СССР.

На Усходзе не было беларускіх суполак, у савецкія часы нікому ў галаву нават не прыйшло б іх ствараць. Таму на першым этапе дзейнасьці ЗБС большая ўвага надзялялася менавіта блізкаму замежжу, дзе трэба было аказаць дапамогу беларусам у арганізацыі свайго нацыянальнага жыцьця і наладжваньня кантактаў з Бацькаўшчынаю. У сьнежні 1992 году ЗБС склікала ў Менску Першы Сход беларусаў блізкага замежжа. Гэта было першае спатканьне на Радзіме беларускай дыяспары, якое мела надзвычай важнае значэньне для яе далейшай кансалідацыі. На Сходзе абмяркоўваліся балючыя пытаньні: аказаньне дапамогі землякам у зонах ваенных і міжнацыянальных канфліктаў на Каўказе, у Сярэдняй Азіі, у Прыднястроўі, вяртаньня на Бацькаўшчыну высокапрафэсійных кадраў, якія былі засланыя на працу ў розныя куткі Савецкага Саюза і пасьля яго развалу засталіся бяз працы, вяртаньне дамоў беларускіх вайскоўцаў, дапамога ў стварэньні беларускіх суполак і наладжваньні іх дзейнасьці, усталяваньня пастаянных кантактаў з краінаю-маці і шмат іншых. Удзельнікі Сходу пабачылі, што яны не застаюцца сам-насам са сваімі праблемамі, што на Бацькаўшчыне ёсьць асобная арганізацыя – ЗБС «Бацькаўшчына», якая бярэцца дапамагаць ім. У той час і дзяржаўныя структуры Беларусі выказвалі намер падтрымліваць замежных суродзічаў і бралі ўдзел у працы Сходу. Такое адбывалася ўпершыню ў гісторыі Беларусі і давала надзею на будучыню. Форум атрымаўся плённым і своечасовым. Пасьля яго шмат дзе на тэрыторыях былога СССР паўсталі беларускія арганізацыі, многія зь якіх існуюць і да сёньня. Пад час падрыхтоўкі Сходу мы ўстанавілі рознымі шляхамі кантакты зь беларусамі амаль ва усіх рэгіёнах блізкага замежжа і потым падтрымлівалі іх.

Посьпех у правядзеньні Сходу беларусаў блізкага замежжа паказаў эфэктыўнасьць такіх форумаў для кансалідацыі беларускай дыяспары ў сьвеце і прывёў да ідэі скліканьня сусьветнага зьезду беларусаў. У гэтай ідэі было шмат праціўнікаў: гаварылася, што яшчэ не прышоў час, яшчэ Беларусь не гатовая, трэба пачакаць лепшых часоў, некаторыя ў ЗБС выказвалі засьцярогу, што на скліканьне такога зьезду ў нас ня хопіць сіл і сродкаў, а на дзяржаву пакуль разьлічваць не даводзіцца. А калі ўжо падрыхтоўка да зьезду ішла поўным ходам, зьявіліся «добразычліўцы», якія пачалі гаварыць пра тое, што «Бацькаўшчына» рыхтуе зьезд у змове з урадам Кебіча, каб перадаць яму мандаты БНР, як гэта было зроблена ва ўкраінцаў, на гэтай падставе пачалі заклікаць замежных беларусаў не ехаць на такі зьезд.

Запрашэньне дэлегатаў на зьезд было адной з найбольш праблемных задачаў для ЗБС. Трэба было забясьпечыць прысутнасьць прадстаўнікоў як блізкага, так і далёкага замежжа. З блізкім было прасьцей, пасьля Сходу беларусаў блізкага замежжа мы мелі сьпісы людзей, і яны ахвотна пагаджаліся прыехаць яшчэ раз на Радзіму. Больш складанай была сытуацыя з заходняй дыяспараю. За амаль тры гады дзейнасьці мы таксама ўстанавілі кантакты з заходнімі беларускімі суполкамі. Аднак шмат хто баяўся ехаць у Менск. Гэта былі паваенныя эмігранты, якія ў бальшыні не былі ў Беларусі, што знаходзілася за «жалезнай заслонаю», ад часу свайго ад'езду каля 50 гадоў таму. Іх страшылі ўспаміны пра камуністычны рэжым, пра сталінскія рэпрэсіі, яны ня верылі, што могуць пачувацца на Бацькаўшчыне ў бясьпецы. Давялося пераконваць, прасіць, тлумачыць, што зараз самы час наведаць родныя мясьціны. І людзі прыехалі.

**МД:** Як да гэтай ідэі паставіліся тагачасныя ўлады?

**ГС:** Вядома, калі мы агітавалі замежных беларусаў за ўдзел у зьездзе, мы не маглі, як грамадзкая арганізацыя, поўнасьцю гарантаваць іх бясьпеку. Але мы мелі пэўныя гарантыі ад дзяржаўных структураў. У той час дэмакратычных пераменаў улады Беларусі пагадзіліся падтрымаць зьезд і аказаць пэўную дапамогу. Найперш, была аказана эфэктыўная дапамога ў атрыманьні візаў для заходняй дыяспары. Міністр замежных справаў Пётр Краўчанка стаў другім сустаршынём Арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы зьезду, сустаршынём ад ЗБС зьяўляўся Васіль Быкаў. Быў такі падыход, што зьезд рыхтуе ЗБС «Бацькаўшчына» з удзелам дзяржавы.

Важным падмуркам юрыдычна-арганізацыйнай дзейнасьці ЗБС на той час стала Пастанова ўрада Рэспублікі Беларусь «Аб пытаньнях дзейнасьці ЗБС «Бацькаўшчына», распрацаваная эканамічным дырэктарам ЗБС Барысам Стукам з дапамогай дэпутатаў Вярхоўнага Савета першага скліканьня Станіслава Шушкевіча і Міколы Маркевіча.

Асобна варта сказаць пра фінансаваньне зьезду, бо, як вядома, «хто плаціць, той і заказвае музыку». Управа ЗБС добра асэнсоўвала сваю адказнасьць за справу. Наша краіна, хаця і атрымала на той час незалежнасьць, была яшчэ далёка не дэмакратычнай, улада заставалася пракамуністычнай і далёкай ад нацыянальных інтарэсаў беларускага народу. Мы не маглі цалкам даверыцца ўраду Кебіча, які усё ж меў свае інтарэсы і ўладныя структуры па-свойму хацелі выкарыстаць зьезд і беларускую дыяспару. Мы не маглі дапусьціць іх поўнага кантролю і тым самым як бы пацьвердзіць закіды супраць ЗБС у змове з уладамі. Гэта б цалкам разбурыла ідэю зьезда, як агульнанацыянальнага

*Працяг на 6-й бачыне*

# Ганна СУРМАЧ: «Першы зьезд беларусаў свету нарадзіў надзею на лепшую Беларусь»

*Працяг з 5-й бачыны*

адраджэнскага і кансалідацыйнага форуму. Таму мы прынялі рашэньне фінансаваць асноўныя выдаткі ўласнымі сіламі, і гэта нам удалося.

У ЗБС «Бацькаўшчына» ад пачатку была створана эканамічная структура, якая занялася фінансава-гаспадарчай дзейнасьцю і заробкам сродкаў на штодзённую дзейнасць ЗБС, яна ажыцьцявіла пасьпяховыя бізнэсовыя праекты і здолела далучыць да гэтай справы прадпрымальнікаў зь беларускага замежжа. Узначальваў гэтую структуру эканамічны дырэктар ЗБС «Бацькаўшчына» Барыс Стук. Менавіта ён ініцыяваў і рэалізаваў практычна ідэю фінансавай самастойнасьці арганізацыі. У адрозьненьне ад іншых грамадзкіх арганізацый «Бацькаўшчына» ад самага пачатку вяла ўласную гаспадарчую дзейнасьць і гэтым захоўвала сваю незалежнасьць. За кароткі час быў створаны шэраг эфэктыўных даччыных прадпрыемстваў ЗБС (выдавецкае, турыстычнае і г. д.), зь якіх «Бацькаўшчына» мела добрыя прыбыткі. ЗБС заўсёды сама фінансавала свае праекты і мерапрыемствы, не прасіла і не атрымлівала гранты, не разьлічвала на фінансавую дапамогу замежных беларускіх суполак. Наадварот, сама ўкладала значныя сродкі ня толькі ў правядзеньне зьездаў, але, напрыклад, ахвяравала мармур коштам каля 40 тыс. дал. на будаўніцтва Беларускага музэя ў Гайнаўцы, у выраб копіі Крыжа Эўфрасіньні Полацкай і шмат чаго іншага.

За кошт дзяржавы рыхтавалася культурная праграма зьезду – канцэрт, Купальле і сьвяточныя нумары дзяржаўных газэт. Частка сродкаў паступіла на адрас зьезду ў якасьці ахвяраваньняў, найбольшую долю зь іх - 20 млн. рублёў уклаў прадпрымальнік з Сібіры Анатоль Сілівончык, значныя ахвяраваньні ўнесьлі Алесь Ядчанка (Украіна), Мікола Сулкоўскі (Расея), Янка Кабановіч (Латвія) ды іншыя.

Аднак уладныя структуры мелі намер перахапіць ініцыятыву і кіраваць зьездам. Я ўзначальвала Працоўную групу, якая практычна выконвала ўсю арганізацыйную працу ад Аргкамітэта. У поўнай меры я адчула тады гэты прэсінг з боку ўладаў. Ніколі мне яшчэ не даводзілася пісаць пра гэта і цяпер, мяркую, усё ж дзеля справядлівасьці трэба сказаць пра гэты важны момант гісторыі Першага зьезду.

Змаганьне за кіраваньне форумам пачалося яшчэ да ягонага адкрыцьця. Сустаршыня Аргкамітэта Пётр Краўчанка, які прадстаўляў у ім уладныя структуры, недзе за тыдзень да зьезду запрасіў мяне ў свой працоўны кабінет міністра замежных спраў і паведаміў, што ён мае намер адчыняць зьезд. Гэта было нечаканасьцю, бо на паседжаньні Аргкамітэту было дамоўлена, што ўступнае слова будзе гаварыць Васіль Быкаў. Заява Краўчанкі істотна мяняла сытуацыю, гэта азначала, што кіраваць зьездам будуць улады. З гэтым я катэгарычна не пагадзілася і выглядала, што дамова застаецца ранейшай. Аднак увечары перад днём адкрыцьця зьезду мне далі інфармацыю, што Краўчанка сам зьбіраецца адчыняць зьезд.

Памятаю, якое хваляваньне тады перажыла. Што рабіць, як гэтага не дапусьціць? Паўночы ня спала, а раніцаю хуценька сабралася - і ў опэрны тэатр. А там ужо бурліць людзкое мора, у фае поўна гасьцей, музыка, узьнёслы настрой, знаёмствы, размовы, прывітаньні. Я кінулася шукаць Васіля Уладзіміравіча, каб паведаміць яму пра намер Краўчанкі. Мне прыйшла ў галаву простая думка: галоўны сродак улады ў вялізнай залі – мікрафон, хто мае ў руках мікрафон, той і кіруе зьездам. Васіль Уладзіміравіч заняў месца перад мікрафонам, а я села непадалёку. Калі прагучаў званок і ўсе накіраваліся ў залю, а шмат хто зь вядомых дзеячаў сталі займаць месцы ў прэзыдыюме на сцэне, месца каля мікрафона аказалася занятым, і Краўчанка мусіў сесьці побач. Ня мог жа ён сказаць Быкаву пасунуцца. Так што далей усё пайшло па нашым сцэнары, Васіль Уладзіміравіч рашуча ўзяў мікрафон і прамовіў уступнае слова, а потым пэўны час выконваў ролю вядучага. Вядучых было некалькі, у тым ліку ў сваю чаргу гэтую функцыю меў і Краўчанка. Аднак зьезд праходзіў пад поўным патранатам «Бацькаўшчыны».

Праблемы ўзьнікалі з прыняцьцем выніковых дакумэнтаў. У прыватнасьці, Краўчанка патрабаваў не прымаць Рэзалюцыю ў падтрымку Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода, аднак мы не пагадзіліся, і дакумэнт быў прыняты, як і ўсе іншыя.

Зразумела, што ўлады не былі задаволеныя такім ходам зьезду і напрыканцы ўвогуле пайшлі на дробную правакацыю. Праграма зьезду прадугледжвала пасьля закрыцьця сяброўскую вечарыну ў рэстарацыі гатэлю «Беларусь», дзе жылі дэлегаты зьезду, аплочвала яе «Бацькаўшчына». У перапынку перад закрыцьцём форуму адзін з нашых заходніх гасьцей паказаў мне запрашэньне, атрыманае ад Краўчанкі, на вячэру ў гатэлі «Юбілейны». Высьветлілася, што шмат хто яшчэ атрымаў такія запрашэньні, але далёка ня ўсе, пераважна з заходняй эміграцыі. Людзі пыталіся, куды ім трэба ісьці. Выглядала так, што на завяршэньне зьезд аказаўся б расколатым. Сяброўская сьвяточная атмасфэра форуму была б сапсаваная, шмат хто застаўся б незадаволеным, людзі пачуваліся б падманутымі і разгубленымі. Стала зразумела, што гэта правакацыя. Ізноў што было рабіць? Часу заставалася мала на пошук выйсьця. Я знайшла Краўчанку і запыталася, ці ён раздаваў такія запрашэньні, ён пацьвердзіў, і тады я сказала, што зараз пры закрыцьці мы запросім усіх на вячэру ў «Юбілейны», каб усе былі разам. Так мы і зрабілі, і ўсе дэлегаты пайшлі ў «Юбілейны».

Пасьля завяршэньня зьезду мы, як арганізатары, мусілі сабраць дакумэнты, пакінуць у парадку залю і таму затрымаліся, прыехалі пазьней у «Юбілейны». Мы – гэта абраныя на зьезьдзе прэзыдэнт ЗБС «Бацькаўшчына» Радзім Гарэцкі, я, старшыня Рады, Вітаўт і Зора Кіпелі і нехта яшчэ з эміграцыі спрабавалі зайсьці ў гатэль, але нас не пускалі ахоўнікі каля дзьвярэй, сказалі, што ўсе месцы занятыя. Я ў абурэньні рванула дзьверы, і мы ўвайшлі, насустрач нам выйшаў Краўчанка, зь якім адбылася непрыемная сутычка. Калі мы падняліся ў банкетную залю, то пабачылі там шэраг чыноўнікаў, якія сядзелі на ганаровых месцах, а для нас доўга не знаходзілася месца. Шмат хто з дэлегатаў стаяў каля сцяны. Банкет быў разьлічаны на выбраных, таму для ўсіх не хапіла месца. Мы папрасілі абслугу паставіць дадатковыя сталы са стаячымі месцамі. У сьвяточнай атмасфэры госьці не зьвярнулі ўвагу на ўсе гэтыя нязручнасьці, частаваліся, весяліліся і не здагадваліся, што адбывалася за кулісамі. Гэта нас радавала, бо ўсе былі разам.

Пасьля вячэры да мяне падыйшлі двое плячыстых мужчынаў і прапанавалі завезьці дадому на аўта, але я катэгарычна адмовілася і было гэта не проста, яны адсталі толькі тады, калі за мяне заступіліся хлопцы з Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў. Я была ім ўдзячная за гэта, але найболш за тое, што яны ўзялі на сябе абавязак выконваць функцыі ахоўнікаў пад час працы ўсяго зьезду. Будынак опэрнага тэатра вялікі, мы ў ім не пачуваліся ўпэненымі, што ня можа адбыцца нейкая правакацыя. У той час вакол зьезда пэўнымі сіламі ствbooралася варожая атмасфэра, мне званілі вэтэраны і пыталіся, нашто мы зьбіраем паліцаяў, нават пагражалі. Але гэтая варажнеча ўжо адыходзіла ў мінулае, і бальшыня людзей у Менску прыхільна вітала ўдзельнікаў зьезду на вуліцах, у скверы каля опэрнага тэатру і ўсюды, куды траплялі нашы госьці.

Мушу згадаць таксама пра тое, што, на вялікі жаль, для гісторыі не засталося ніякага дакумэнтальнага фільму пра Першы зьезд. Рабіць здымкі ўзяліся дзяржаўныя структуры, і мы даверліва пагадзіліся на гэта, бо ня мелі патрэбнай тэхнікі. Здымкі рабіліся, здымала таксама і тэлевізія. Але мы так нічога і не атрымалі. Магчыма, што ўсё пазьней было зьнішчана, каб сьцерці з памяці.

У 1997 годзе ЗБС «Бацькаўшчына» выдала кнігу пра зьезд – гэта дакумэнтальны зборнік, дзе зафіксавана цалкам ўся падзея, і гэта застанецца. Я была ўкладальнікам кнігі і сабрала там усе дакумэнтальныя сьведчаньні.

**МД:** Якія найперш пытаньні мусілі вырашыцца на першым зьезьдзе? Якія з ідэяў і прапановаў зь цягам часу былі ўвасоблены ў жыцьцё, а якія не?

**ГС:** Гэта быў пачатак новага пэрыяду ў гісторыі краіны, пачатак новага шляху. Беларусаў на Бацькаўшчыне і ў замежжы цікавіла, у якім накірунку пойдзе дзяржаўнае будаўніцтва, яны жадалі выказаць сваё разуменьне будучыні краіны-маці. Гэтая тэма была адной з асноўных на форуме. Другі накірунак – абмеркаваньне і вызначэньне шляхоў сумеснай працы Беларусі і дыяспары.

На зьезьдзе былі прынятыя 9 выніковых дакумэнтаў: дэкляравацыя аб прынцыпах нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва, зварот ад беларусаў замежжа, звароты да беларускага народу, да парлямэнта і ўраду Рэспублікі Беларусь, заява па вайсковаму пытаньню, рэзалюцыі ў падтрымку ЗБС "Бацькаўшчына", у падтрымку Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода, пастанова аб Згуртаваньні прадпрымальнікаў беларускай дыяспары, зварот аб устанаўленьні мэмарыяльнай дошкі на будынку, дзе была абвешчана БНР. Гэта быў цэльны пакет дакумэнтаў, у якім былі выкладзены погляды беларусаў з Бацькаўшчыны і з замежжа на будучыню сваёй краіны-

маці, іх прапановы, пажаданьні і канкрэтныя праграмы дзейнасьці па ўсталяваньню і падтрыманьню кантактаў з беларускім замежжам, па аказаньню дапамогі беларускай дыяспары ў арганізацыі нацыянальнага жыцьця.

Дэлегаты зьезду нагадалі пра тое, што форум праходзіць у год адзначэньня 75-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, якое гэтым разам урачыста сьвяткавалася ў Менску ў залі дзяржаўнай філярмоніі. Яны выказалі перакананасьць, што Акт 25 Сакавіка павінен быць падмуркам для адбудовы новай беларускай дзяржавы. Зьезд выказаўся за тое, каб 25 Сакавіка было абвешчана дзяржаўным сьвятам у Беларусі.

Удзельнікі зьезду адрасавалі свае звароты нятолькі да ўладаў Беларусі, але і да самога беларускага народу. Мы тады спадзяваліся, што шмат што будзе рэалізавана, прынята пад увагу беларускімі ўладамі.

Ня варта шмат гаварыць пра тое, што выказаныя тады ідэі адносна дзяржаўнага будаўніцтва і нацыянальнага разьвіцьця беларускага народу рэалізаваліся дыктатарскім рэжымам з дакладнасьцю наадварот.

Не былі выкананыя і бальшыня прапановаў зьезду адносна супрацы з дыяспарай. Найперш, да сёньня не прыняты Закон пра замежных беларусаў, хаця пра гэта гаварылася на ўсіх наступных зьездах і на сёлетнім – Шостым. Не распрацавана і іншая патрэбная прававая база дзеля працы зь беларускім замежжам. Не была створаная паўнавартасная дзяржаўная структура па сувязях з дыяспарай, цяпер гэтая дзялянка дзеля адчэпнага даручана структуры па справах рэлігіі, некаму наверсе падалося, што гэта падобныя функцыі.

На Першым зьезьдзе ў рамках працы эканамічнай сэкцыі прайшоў установчы сход і было створана Згуртаваньне прадпрымальнікаў беларускай дыяспары пры ЗБС “Бацькаўшчына”, абрана Рада прадпрымальнікаў беларускай дыяспары, прынята рашэньне аб утварэньні выканаўчай структуры Згуртаваньне прадпрымальнікаў беларускай дыяспары – “Міжнароднага цэнтра прадпрымальнікаў беларускай дыяспары “Белдыя”. Аднак дзяржаўныя структуры не стварылі спрыяльных умоваў для эфэктыўнай дзейнасьці гэтых эканамічных структураў, якія мелі добры патэнцыял і маглі прынесьці шмат карысьці для нашай краіны, у выніку іх дзейнасьць была цалкам паралізаваная.

Не атрымала далейшага разьвіцьця дзяржаўная Праграма “Беларусы ў сьвеце”. Пералік можна было б працягнуць, але гэта зойме шмат месца.

Тое, што было ажыцьцёўлена – гэта пераважна тыя пункты дакумэнтаў зьезду, якія тычыліся дзейнасьці самой дыяспары і ЗБС “Бацькаўшчына”. Першы зьезд стаў магутным стымулам для ажыўленьня і шмат дзе для запачатваньня беларускага жыцьця ў замежжы. Стварыліся новыя суполкі, пачаліся актыўныя кантакты між самімі замежнымі беларусамі, працягвалася на больш высокім узроўні фармаваньне сусьветнай беларускай супольнасьці, і нікому ўжо ня ўдасца перапыніць гэты працэс.

ЗБС “Бацькаўшчына” працягнула сваю дзейнасьць у неспрыяльных умовах, без належнай падтрымкі дзяржавы, нават пераадольваючы перашкоды, якія ставяцца яму ў сёньняшняй Беларусі. ЗБС арганізавала правядзеньне некалькіх канфэрэнцый “Культура беларускага замежжа”, ініцыявала арганізацыю пастаянных Сустрэчаў беларусаў краінаў Балтыі. Разам з замежнымі беларусамі аказвала дапамогу ў аздараўленьні беларускіх дзяцей з пацярпелых ад радыяцыі раёнаў. Забясьпечвала беларускімі выданьнямі бібліятэкі беларускіх суполак у розных краінах, аказвала падтрымку суполкам у розных патрэбах нацыянальна-культурнага жыцьця.

Згуртаваньне рэгулярна, раз на чатыры гады праводзіць свае зьезды беларусаў сьвету і сёлета, у год 20-й гадавіны ад Першага зьезду, зьбірае чарговы Шосты зьезд. Але ні адзін з наступных зьездаў ужо немагчыма было правесьці так маштабна, як той Першы. Застаецца толькі спадзявацца, што дачакаемся лепшых часоў.

**МД:** Распавядзіце пра аднаўленьне Крыжа Эўфрасіньні Полацкай.

**ГС:** Гэта адзін з самых пасьпяховых праектаў ЗБС “Бацькаўшчына”, якія ўдалося ажыцьцявіць зь непасрэдным удзелам беларускай дыяспары. Яшчэ на Першым Сходзе беларусаў блізкага замежжа, у сьнежні 1992 года было прынята рашэньне пра аднаўленьне страчанай духоўнай сьвятыні Беларусі – Крыжа Св. Эўфрасіньні Полацкай. Першы зьезд падтрымаў гэтую ініцыятыву. Потым Управа ЗБС прыняла канчатковае рашэньне пачаць гэтую адказную працу. “Бацькаўшчына” заключыла дамову з мастаком-ювелірам Міколам Кузьмічом. Сродкі здабываліся дзякуючы дапамозе прадпрымальнікаў з беларускай дыяспары, найперш Анатоля Сілівончыка з Сургута, Міколы Сулкоўскага (Новасібірск), Анатоля Лук’янчыка (Кліўленд) ды іншых. Трэба адзначыць, што затраты былі даволі значныя - аплата дасьледчай працы, набыцьцё каштоўных камянёў і іншых аздобаў, аплата мастацкай працы… “Бацькаўшчына” таксама зьняла дакумэнтальны фільм і выдала кнігу пра гісторыю Крыжа і яго аднаўленьня. Адноўлены Крыж ў 1997 годзе быў перададзены Беларускай праваслаўнай царкве, з кіраўніцтвам якой “Бацькаўшчына” супрацоўнічала пад час аднаўленьня сьвятыні, цяпер Крыж захоўваецца ў Спаса-Эўфрасіньнеўскім манастыры ў старажытным Полацку.

**МД:** У час правядзення зьезда ці было ў вас адчуваньне і разуменьне, што адбываецца гістарычная падзея?

**ГС:** Безумоўна. Ад самага пачатку і да завяршэньня атмасфэра зьезду была ўрачыстаю, ва ўсім адчувалася высокая гістарычная значнасьць падзеі. Такі форум быў скліканы ўпершыню ў гісторыі нацыі. У пэўным сэнсе яго можна параўнаць па значнасьці зь Першым Усебеларускім зьездам у снежні 1917 году, які прывёў да абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году.

Дастаткова паглядзець на агульны фотаздымак удзельнікаў зьезду – прастора перад будынкам тэатру запоўненая людзьмі, а на франтоне – купалаўскія словы: «На сход! На Усенародны сход!». Ён у поўнай меры вобразна перадае значнасьць падзеі.

Памятаю цёплы летні вечар пасьля завяршэньня першага дня зьезду. Усе выйшлі на пляц каля тэатру, там было ўстаноўлена кола, людзі падыходзілі, запальвалі свечкі і ставілі на кола, яно сталася такім своеасаблівым сымбалем яднаньня. Гэта былі незабыўныя хвіліны духоўнай еднасьці, узьлёту, пачуцьця радасьці і спакою, у душы нараджалася надзея, што гэта толькі пачатак нашага адраджэньня, што нас чакае сьветлая будучыня, што краіна наша расквітнее і пойдзе па шляху незалежнасьці, свабоды і дэмакратыі, дзе будуць шанавацца правы чалавека, дзе будзе паважацца кожная асоба.

Са страхам цяпер думаю, каб мы паслухаліся тых баязьліўцаў, хто адгаворвалі нас тады склікаць гэты форум, цяпер не было б у нашай сучаснай гісторыі такой выдатнай знакавай падзеі. Больш мы ня мелі ўжо такой магчымасьці правесьці паўнавартасны зьезд.

Першы зьезд беларусаў свету спрыяў абуджэньню нацыі, але, на жаль, ня стаў перашкодаю на шляху напаўзаўшай дыктатуры. Аднак, я спадзяюся і веру, што ягоныя вынікі будуць і надалей увасабляцца ў жыцьцё ў дзеяньнях сусьветнай беларускай супольнасці, якае працуе дзеля лепшай будучыні нашай Бацькаўшчыны-Беларусі.

## Як беларускія ўлады супрацоўнічаюць з дыяспараю

Шэраг дэпутатаў польскага Сэйму стварылі групу па кантактах і супрацоўніцтву з уладамі Беларусі. Яе ўзначаліў дэпутат з Падляшша Яўген Чыквін ( ня блытаць з пісьменьнікам Янам Чыквіным – кіраўніком “Белавежы”).

Як паведаміла прэс-служба беларускага МЗС, на першым пасяджэньні групы прысутнічаў амбасадар Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак. Ён адзначыў важнасьць разьвіцьця двухбаковага ўзаемадзеяньня ва ўсіх галінах, у тым ліку ў палітычным і міжпарлямэнцкім накірунках.

Выглядае, што сп. Гайсёнак мае відавочны посьпех у справе арганізацыі пралукашэнкаўскіх структураў у замежжы з дапамогаю некаторых вядомых сваёй праблемнай дзейнасьцю беларускіх актывістаў на Беласточчыне.

Такімі дасягненьнямі ня могуць пакуль пахваліцца беларускія прадстаўніцтвы ў ЗША, аднак ёсьць падставы меркаваць , што такая супраца з дыяспараю будзе актывізавацца і сярод амэрыканскіх беларусаў. Бо ёсьць ужо і куратар, супрацоўнік Міністэрства замежных справаў – Юры Амбразевіч, які ў траўні спрабаваў арганізаваць сустрэчу прадстаўнікоў беларускіх арганізацый ў ЗША з лукашэнкаўскім міністрам замежных справаў Макеем. Дзеля большай прафэсійнай падрыхтоўкі ў гэтай справе сп. Амбразевіч нават быў пасланы на Шосты зьезд беларусаў сьвету. Ён сядзеў у зале зьезду у кампаніі з Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў (заадно і дыяспары) Леанідам Гулякам і міністрам культуры Барысам Сьвятловым.

# «Рада БНР зможа ініцыяваць стварэньне “Пляну Маршала для мадэрнізацыі Беларусі”»

*1 чэрвеня пад час сэсіі Рады БНР ў Нью-Ёрку перад сябрамі Рады выступіў былы амбасадар ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц, які абгрунтаваў сваю прапанову аб прызнаньні Злучанымі Штатамі Рады БНР у якасьці легітымнага воргана дзяржаўнасьці Беларусі і адначасовай адмове такога прызнаньня ворганам улады пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнкі.*

*Рада прыняла рэзалюцыю ўхваліць выкладзеную амбасадарам Суорцам пазыцыю. З гэтай нагоды старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла адказвае на пытаньні газэты “Салідарнасьць”.*

**Салідарнасьць:** – Спадарыня Івонка, у чым сутнасьць прапановы амбасадара Суорца? Бо, як вядома, Вас як старшыню Рады і цяпер прымаюць у эўрапейскіх краінах на высокім ўзроўні...

**Івонка Сурвілла:** – Рада БНР ёсьць легітымным рэпрээнтантам беларускай дзяржаўнасьці. Беларусы – ня першыя, хто мае так званы “экзыльны ўрад”, і ў заходнім сьвеце гэта памятаюць. Спадар Суорц ўзьняў пытаньне пра тое, каб, цытую, з боку ЗША “надаць фармальнае дыпляматычнае і юрыдычнае прызнаньне Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі як законнай уладзе краіны”. Пэўна, нялішне будзе зрабіць невялікі экскурс у гісторыю.

Ад часу наданьня дзяржаўных паўнамоцтваў Усебеларускім Зьездам 1917 г., мэтаю Рады БНР было сфармаваньне ў Беларусі дэмакратычнай палітычнай сыстэмы са свабодна і справядліва абранай уладаю. Скліканьне Беларускага Ўстаноўчага Сойму было прызначана Радай на 1 сьнежня 1918 г., аднак, як Вы ведаеце, гэтага не адбылося з прычыны наступу Чырвонай Арміі, акупацыі БНР войскам Савецкай Расеі.

Працягваючы сваю дзейнасьць на выгнаньні, Рада паводле Статуту мае скласьці паўнамоцтвы на карысьць будучай дэмакратычнай улады ў Беларусі, пры ўмове гарантаванасьці незалежнасьці.

Такім чынам, як Вы бачыце, галоўная мэта Рады – стварэньне дэмакратычнай улады ў Беларусі.

**С:** – Між іншым, чаму паўнамоцтвы не былі перададзеныя ў пачатку 90-х, калі была абвешчаная Незалежнасьць? Бо ёсьць жа прыклад украінцаў - Рада УНР перадала свае паўнамоцтвы.

**ІС:** – Так, у тыя гады кіраўніцтва беларускага ўраду (найперш прэм’ер-міністар Кебіч і міністар замежных спраў Краўчанка) рабілі намаганьні, каб Рада БНР склала свае паўнамоцтвы. Але мой папярэднік на пасадзе старшыні Язэп Сажыч адмовіўся гэта зрабіць. Таму што, папершае, не было дэмакратычна абранай улады (дзейнічаў Вярхоўны Савет, абраны яшчэ пры камуністах), а па-другое, мы не лічылі, што незалежнасьць – гарантаваная і незваротная. І ў гэтым мы, як паказалі наступныя падзеі, мелі рацыю.

Сапраўды, Рада УНР перадала свае паўнамоцтвы ў 1993 годзе на рукі прэзыдэнту Украіны, была ўрачыстая цырымонія з удзелам дэпутатаў і членаў ураду. Але пазьней даводзілася чуць ад украінскіх сяброў, што яны з гэтым пасьпяшаліся.

Я падкрэсьліваю: Рада БНР ня мае на мэце, вярнуўшся ў Беларусь, заняць месца ўраду. Рада складзе свой гістарычны мандат на карысьць дэмакратычна абранай улады, і гэта, між іншым, адназначна сказана ў сучасным Статуце Рады. А сёньня мы імкнемся спрыяць, каб такая дэмакратычная ўлада паўстала як найхутчэй.

**С:** – Вы ня верыце ў тое, што Лукашэнка пад уплывам унутраных альбо зьнешніх фактараў можа пайсьці на пэўныя дэмакратычныя рэформы?

**ІС:** – Цалкам выключаю такі варыянт. І вось якраз ініцыятыва амбасадара Суорца фактычна грунтуецца на тым, што сфармаваная за 19 гадоў пад тыраніяй Лукашэнкі дзяржаўна-палітычная сыстэма ўжо ня мае ўнутранай здольнасьці для вяртаньня да дэмакратычнай легітымнасьці ні пры якіх умовах.

І было б слушна, каб пераход ад дыктатуры да дэмакратыі мог адбыцца пад эгідай міжнародна прызнанай установы беларускай дзяржаўнасьці, якая існуе па-за межамі сыстэмы Лукашэнкі. І пры гэтым установа (мы кажам пра Раду БНР) ня будзе пасьля браць удзел у спаборніцтве дэмакратычных палітычных сілаў Беларусі за ўладу.

Мы, калі Вы заўважылі, і цяпер знаходзімся па-над міжпартыйнымі спрэчкамі. Рада БНР у аднолькавай ступені падтрымлівае ўсе тыя сілы ў Беларусі, якія выступаюць за незалежнасьць краіны, усталяваньне дэмакратыі, захаваньне і разьвіцьцё нацыянальна-культурных каштоўнасьцяў

Я вельмі задаволеная тым, што летась у лістападзе ў Вільні мы разам зь лідэрамі беларускіх арганізацый падпісалі Мэмарандум у справе абароны Незалежнасьці. Вельмі важна, што лідэры партыяў і арганізацый ўзьняліся над міжасабовымі спрэчкамі (напэўна, у палітыцы такія спрэчкі непазьбежныя, але ёсьць каштоўнасьці, перад якімі яны павінны адыйсьці на другі план).

**С:** – У выпадку, калі Рада БНР атрымае міжнароднае прызнаньне (такое, якое меў польскі ўрад у выгнаньні ў часе Другой Усясьветнай вайны альбо цяпер апазыцыйная кааліцыя Сірыі), што Вы будзеце лічыць галоўным у сваёй дзейнасьці?

**ІС:** – Выглядае, адказ на гэтае Вашае пытаньне будзе доўгім. Рада БНР скарыстае сваю міжнародную правасуб'ектнасьць для вырашэньня задачаў на трох асноўных напрамках.

Па-першае, у якасьці прызнанага ЗША і, як можна чакаць, шэрагам іншых дзяржаваў, суб’екта міжнароднага права, Рада зможа мабілізаваць адпаведныя міжнародныя рэсурсы, скарыстаўшы іх для паскарэньня аднаўленьня дэмакратыі ў Беларусі. Рада зможа зрабіць гэта шляхам такіх захадаў, якія іншыя дзяржавы сёньня ўжываць у адносінах да тыраніі ў Менску не гатовыя.

Вы бачыце, як пагаршэньне эканамічнай сытуацыі прымушае Лукашэнку замест рэформаў здаваць Расеі, вобразна кажучы, усё новыя “кавалкі” сувэрэнітэту. Аддаюцца бюджэтнаўтворныя прадпрыемствы, ствараюцца выключныя ўмовы для расейскіх карпарацыяў, нарэшце, павялічваецца вайсковая прысутнасьць Масквы (дарэчы, на апошняй сэсіі Рада прыняла заяву супраць разьмяшчэньня расейскіх вайсковых аб’ектаў).

У новай якасьці Рада БНР зробіць папераджальныя міжнародныя захады, каб захаваць статус сувэрэнітэту Беларусі ад небясьпекаў, якія могуць паўстаць падчас самых цяжкіх і апошніх ступеняў крызісу сыстэмы пад кіраўніцтвам Лукашэнкі, пры магчымых спробах кіраўніцтва рэжыму самазахавацца любым коштам з апораю на Расею.

Па-другое, сёньня ў Беларусі і ў замежжы засталося мала надзеяў, што зьмена ўлады можа адбыцца шляхам такіх дэмакратычных працэдураў пры ўдзеле ворганаў, сфармаваных Лукашэнкам (маю на ўвазе ЦВК, але ня толькі яе). Узьнікае пытаньне аб воргане, пад палітычным наглядам і эгідай якога змогуць адбыцца першыя дэмакратычныя выбары, станецца запачаткавана сыстэма сумленнага дэмакратычнага працэсу. У разе абгрунтаванага амбасадарам Суорцам міжнароднага прызнаньня, Рада можа выканаць такую ролю для Беларусі.

Прызнаньне легітымным часовым ворганам улады з боку ЗША і іншых краін безумоўна надасьць Радзе неабходны статус для выкананьня такой задачы паводле найлепшага міжнароднага досьведу і ўзораў, з апорай на падтрымку беларускага палітычна актыўнага грамадзтва і з прыцягненьнем ўсіх унутраных і міжнародных арганізацыйных і экспэртных рэсурсаў.

Па-трэцяе, найбольш верагодна, што рэжым Лукашэнкі пакіне Беларусь з дашчэнту разбуранай эканомікай і вялізнымі зьнешнімі пазыкамі. У якасьці суб’екта міжнароднага права, карыстаючыся прызнаньнем ЗША і іншых дзяржаваў, Рада зможа ініцыяваць стварэньне, назавем умоўна, міжнароднага “Пляну Маршала для мадэрнізацыі Беларусі”.

Такі плян мог бы быць уведзены адразу па аднаўленьні дэмакратычнай легітымнасьці ўлады. Мэтаю Рады ў гэтай частцы станецца перадаць новай дэмакратычнай уладзе Беларусі ня толькі гістарычную дзяржаўную традыцыю БНР і гістарычную пячатку Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, але гатовы комплексны пакет міжнародных актываў, што дазволіць шырокім масам народа Беларусі як хутчэй адчуць выгоды вернутай свабоды і пачаць узьнімацца эканамічна.

Беларусы – вельмі працавіты народ. Рада БНР будзе імкнуцца закласьці ў Беларусі падмуркі такой краіны, у якой будзе прыемна жыць і якой сапраўды будзе можна ганарыцца.

**С.:** – Абгрунтоўваючы сваю прапанову, Дэвід Сўорц заявіў, што прызнаньне Рады БНР і яго наступствы будуць ў інтарэсах усходнеэўрапейскага рэгіёну. У чым ён палягае?

**І.С.:** – У тым, што свабодная, беларуская Беларусь у якасьці рэгіянальнага ўзору дэмакратыі, вяршэнства закона і гарантаваньня правоў чалавека, беларускай нацыянальнай самарэалізацыі гаспадарчага разьвіцьця і стварэньня годных сацыяльных умоваў для жыцьця, сваім посьпехам кардынальна зьменіць усё аблічча абшара паміж Чорным і Балтыйскім морам. Гэтым яна пакладзе гістарычны канец спадчыне СССР і нэаімпэрскім памкненьням Расеі.

Рада БНР мае вельмі дакладнае ўяўленьне пра тую Беларусь, падмуркі якой яна мае на мэце закласьці, на грунце прынцыпаў Беларускай Народнай Рэспублікі, галоўнымі зь якіх ёсьць свабода, незалежнасьць і права народу на рэалізацыю права на годнае, заможнае жыцьцё на сваёй зямлі.

*Гэтае інтэрвю са сп. Івонкаю Сурвіллай было запісана Міхасём Вальковічам для газэты “Салідарнасьць” 02.07.2013*

# Амэрыканскія беларусы пікетавалі штаб-кватэру Міжнароднага валютнага фонду ў Вашынгтоне




Прадстаўнікі беларускіх арганізацый у ЗША правялі 20 ліпеня акцыю пратэсту ля вашынгтонскай штаб-кватэры Міжнароднага валютнага фонду (МВФ). Яны запатрабавалі ад гэтай арганізацыі спыненьня выдачы фінансавай дапамогі уладам у Менску ў выглядзе чарговага крэдыту.

Некалькі дзясяткаў удзельнікаў акцыі надзелі маскі з выявай Лукашэнкі. У руках яны трымалі плякаты з інфармацыяй аб тым, што крэдыты, якія выдаюцца, ідуць фактычна на падтрымку дыктатарскага рэжыму - утрыманьне сілавых структураў, кантраляваньне інтэрнэту, фінансаваньне прапаганды, фэстывалі і дажынкі і іншыя забаўляльныя мерапрыемствы. Крэдыты МВФ не прынясуць карысьці беларускаму народу, бо гэта ня ёсьць мэта дыктатара, але выплочваць іх у будучыні давядзецца менавіта беларусам. Пасьля нядаўна ўзятага ў Расеі вялізнага крэдыту на будаўніцтва атамнай станцыі ў Беларусі зьнешні доўг краіны наблізіўся да крытычнай мяжы. Але дыктатура патрабуе грошай і яе не займае, што будзе з краінаю ў будучыні. Лукашэнка зацікаўлены ў тым, каб утрымацца пры ўладзе і знайсьці сродкі для гэтага.

Пікет арганізавалі некалькі арганізацыяў - «Беларусы ў выгнаньні», «Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне» (БАЗА), Гурток БАЗА ў Вашынгтоне, альянс «Пагоня».

Удзельнікі акцыі зьвярнуліся з адкрытым лістом да дырэктаркі-распарадчыцы МВФ Крысьцін Лагард. Яны лічаць неабходным, каб фонд, «перш, чым разглядаць варыянты з новымі пазыкамі Менску, запатрабаваў ад уладаў выкананьня раней заключаных пагадненьняў па рэфармаваньні беларускай эканомікі”.

# Дзьмітры ШЧЫГЕЛЬСКІ: Міжнародны валютны фонд зьнішчае будучыню дэмакратыі ў Беларусі

*Праведзеная амэрыканскімі беларусамі акцыя пратэсту каля сядзібы Міжнароднага валютнага фонду у Вашынгтоне можа выклікаць рознае стаўленьне з боку беларусаў як на Бацькаўшчыне, так і ў замежжы. Некаторыя абураюцца, як можна пратэставаць, калі даюцца крэдыты для народу Беларусі, каб лягчэй перадолець эканамічныя цяжкасьці. У чым сутнасьць і мэта гэтай акцыі пратэсту, ці яна сапраўды скіраваная супроць насельніцтва Беларусі? Гэтае пытаньне ад нашай рэдакцыі мы задалі аднаму з галоўных арганізатараў Дзьмітрыю Шчыгельскаму*

**ДШ:** Мы выступаем за тое, каб МВФ не выдзяляў крэдыты бяздумна, мы хочам сказаць кіраўніцтву МВФ: “Не давайце грошы, якія пойдуць на сацыяльныя выплаты і накачваньне тым самым рэйтынга існуючай улады, пойдуць на падтрымку рэжыма, на ўтрыманьне сілавых структураў, на латаньне дзірак, якія зьявіліся ў выніку злачыннай эканамічнай мадэлі, якая склалася пад час праўленьня Лукашэнкі. Трэба, каб гэтыя крэдыты выдзяляліся пад пэўныя ўмовы і каб гэтыя ўмовы выконваліся. Умовы гэтыя добра вядомыя: лібэралізацыя эканомікі, прыватызацыя, адыход дзяржавы з тых сфэраў эканомікі, дзе ягонай улады не павінна быць.

МВФ па свайму асноўнаму прызначэньню займаецца крэдытаваньнем для падтрымкі і разьвіцьця эканомікі, для павышэньня ўзроўню жыцьця – гэта значыць, для ўсяго таго, супроць чаго ня трэба пратэставаць і мы гэтага ня робім. Але калі МВФ выдае крэдыт, які ізноў пойдзе на праяданьне рэжымам, то фактычна гэтым закладаецца міна запаволенага дзеяньня пад будучыню Беларусі, бо гэтыя крэдыты не прынясуць росту эканомікі, не дадуць прыбыткаў, а аддаваць іх давядзецца ў будучыні беларускай дзяржаве і не з прыбыткаў, як гэта павінна плянавацца пры крэдытаваньні, а за кошт таго, што будзе адымацца ў беларускага народу.

**Лукашэнка спадзяецца атрымаць новы буйны крэдыт ад МВФ, як гэта можа паўплываць на сытуацыю са зьнешнім доўгам Беларусі, які сёньня аб’ём гэтага доўгу?**

**ДШ:** Варта пачаць з дынамікі росту зьнешняй запазычанасьці, якая шмат пра што гаворыць. У 2007 у нас было 6,8 млрд. доўгу, зараз у нас 34,2. Нагадаем тут пра нядаўні буйны крэдыт ад Расеі пад будаўніцтва беларускай атамнай станцыі. Названая лічба складае зьнешні валавы доўг. Трэба патлумачыць, што валавы доўг краіны – гэта сума доўгу дзяржаўнага і агульнага доўгу прыватных кампаній гэтай краіны. Дзяржава адказвае за свой доўг, а кампаніі самі абавязаны сплочваць свае крэдыты. А як у Беларусі? У нас прыватныя кампаніі бяруць крэдыты пераважна пад гарантыі дзяржавы, і зразумела, што яны даюцца толькі набліжаным да ўлады. Так што крэдыты, набраныя суб'ектамі гаспадараньня, заводамі, міністэрствамі – ідуць пад дзяржаўныя гарантыі. Вядома, што сёньня дастаць вялікія крэдыты ня проста і таму ў Беларусі вынайшлі свой шлях. У Эўропе зараз ідзе актыўная падрыхтоўка да атрыманьня крэдытаў беларускімі прадпрыемствамі пад дзяржаўныя гарантыі ад невялікіх банкаў у адносна невялікіх памерах – ад 15 млн. дал. Здаецца, драбностка. Але такіх крэдытаў можа набрацца сотні, і тады яны ператворацца ў мільярды.

З гэтых крэдытаў маюць прыбыткі, набіваюць кішэні верныя рэжыму людзі з дапамогай грошай, якія ў будучыні давядзецца аддаваць беларускай дзяржаве. Бо як толькі гэтая ўлада рухне, то і бізнэсы разьляцяцца, і крэдыты павіснуць на дзяржаве, якая гарантавала іх вяртаньне. Такім чынам, для Беларусі сёньня валавы зьнешні доўг фактычна роўны дзяржаўнаму, а гэта ёсьць вялізная даўгавая яма для краіны ў будучыні, бо цяперашні памер доўгу набліжаецца да крытычнага. Сёньня ён складае ўжо 53,4 % ВВП. Апошнім часам у беларускіх дзяржаўных сродках масавай інфармацыі даваліся аптымістычныя паведамленьні тыпу: “сёньня заплацілі 90 мільёнаў доўгу”, “сёньня заплацілі 120 мільёнаў”, “якія мы добрыя, як мы спраўна плацім па крэдытах”. А калі паглядзім бліжэй, то аказваецца, што за апошнія паўгады зьнешні валавы доўг Беларусі павялічыўся на паўмільярда, значыць, доўг расьце і большымі тэмпамі, чым выплата.

**Які вынік, на Вашу думку, будзе мець гэтая сытуацыя ня толькі ў фінансавым, эканамічным пляне, але і ў цэлым для краіны, для яе будучыні, для захаваньня дзяржаўнай незалежнасьці?**

ДШ: Вынік будзе нашмат больш сур'ёзным, чым можа здавацца цяпер. Фактычна, гэта міна запаволенага дзеяньня магутнай разбуральнай сілы. Паспрабуем змадуляваць сытуацыю. Скажам, дыктатура праз пэўны час упадзе, улада зьменіцца. Спадзяюся, што гэта будзе дэмакратычная ўлада. І яна павінна будзе сплачваць даўгі. Як мы высьветлілі, ня ўдасца спаслацца на тое, што грошы браў нелігітымны рэжым, што няма міжнароднай юрыдычнай базы, каб адмовіцца ад гэтых даўгоў. Адкуль узяць сродкі на выплату крэдытаў пры разбуранай рэжымам эканоміцы? Толькі зь дзяржаўнага бюджэту, а гэта значыць, скараціць расходы на сацыяльныя выплаты, на утрыманьне дзяржаўнага апарату, на ахову здароўя, на адукацыю і шмат чаго іншага. І народ скажа: «Пры Лукашэнку было лепш, а вы, дэмакраты, нам не патрэбныя, вярніце нам Лукашэнку». І як можна потым будзе патлумачыць людзям, што рэжым ужо раней праеў іхныя грошы і іхную будучыню? Цяпер беларускія грамадзяне не задумваюцца, за кошт

*Працяг на 10-й бачыне*

# Дзьмітры ШЧЫГЕЛЬСКІ: Міжнародны валютны фонд зьнішчае будучыню дэмакратыі ў Беларусі

*Працяг з 9-й бачыны*

чаго ім павышаюцца пенсіі ці іншыя выплаты. За ўсё гэта давядзецца плаціць іхным дзецям і унукам.

З нашага патрыятычнага пункту гледжаньня, Захад сёньня робіць стратэгічную памылку: папершае, яны падтрымліваюць рэжым, але што нашмат горш, яны забіваюць будучыню дэмакратыі ў Беларусі. Калі гэтыя вялізныя выплаты лягуць на плечы будучай дэмакратычнай улады, а яшчэ ва ўмовах, калі перапыняцца датацыі з боку Расеі (а яны перапыняцца, калі да ўлады прыйдуць дэмакраты), гэта выкліча абвал узроўню жыцьця, незалежна ад таго, ці гэта будзе самы найлепшы урад, міністры і менеджмэнт і якія рэформы яны будуць праводзіць. Пазбаўленая датацый з Усходу і Захаду краіна абрынецца ў прорву. Народ будзе абураны, і новая рэвалюцыя непазьбежна.

Так што цяперашнія крэдыты МФВ ня проста спрыяюць захаваньню рэжыму, але і зьнішчаюць будучыню Беларусі. Гэта непасрэдная пагроза незалежнасьці краіны, таму што, калі ўзьнікнуць гэтыя сур'ёзныя эканамічныя праблемы, якія ня будуць вынікам прыходу да ўлады дэмакратычнага ураду, а будуць вынікам той палітыкі Захаду, якая праводзіцца сёньня, будзе вельмі лёгка выкарыстаць такую сытуацыю для інкарпарацыі Беларусі ў Расею, лягчэй, чым гэта зрабіць зараз. Цяпер Расея не імкнецца ісьці на аншлюс пры незаконным прэзыдэнце, пры нядзейсным парлямэнце, бо гэта ў вачах сьвету будзе незаконная акцыя. А вось калі ў Беларусі зьявіцца законна абраная ўлада і разгарыцца эканамічны крызыс, і тады зьявіцца якая-небудзь партыя (загадзя падрыхтаваная суседняй краінаю) і на хвалі папулісцкай рыторыкі набярэ бальшыню ў парлямэнце, ва ўрадзе і прыме законнае рашэньне пра дабравольны аншлюс з братняю Расеяю. Такога фінішу для нашай Бацькаўшчыны мы ня хочам і будзем імкнуцца яго не дапусьціць.

Таму мы просім МВФ: "Мы не супроць крэдытаў, але не давайце грошы проста так, пад дэкарацыі, а давайце пад рэальныя справы на карысьць разьвіцьця эканомікі краіны. Давайце крок за крокам. Далі пад пэўную праграму, рэформа праведзена - давайце наступны транш.

**Вы думаеце, што рэжым сапраўды будзе праводзіць нейкія рэформы, каб атрымаць крэдыты?**

**ДШ:** Рэжым цудоўна разумее, што правядзеньне дэмакратычных рэформаў у эканоміцы пагражае самому ягонаму існаваньню, таму вядома, што ніякай лібералізацыі эканомікі ён ажыцьцяўляць ня будзе, але ўнясе ў сваю заяўку на крэдыт некаторыя дэкаратыўныя элемэнты і паспрабуе гэтым замазаць вочы экспэртам з МВФ.

**Хіба МВФ не разумее, что адбываецца?**

**ДШ:** МВФ – гэта складаная бюракратычная структура, у якой ёсьць Рада дырэктараў. Там ёсьць розныя думкі і розныя ўплывы і лабіраваньне. Зразумела, што і беларускі рэжым працуе са свайго боку, каб знайсьці нейкія магчымасьці дабіцца сваёй мэты.

Але і беларускім патрыятычным сілам трэба таксама працаваць, каб данесьці і да МВФ, і да грамадзкасьці Беларусі інфармацыю пра рэальны стан рэчаў з крэдытамі і папярэдзіць тыя негатыўныя наступствы, якія яны нясуць для будучыні краіны.

# Весткі з Вільні



*Прамаўляе Андрусь Старавойтаў*

27 ліпеня ў сядзібе Таварыства беларускай культуры ў Літве на чарговую імпрэзу сабраліся сябры ТБК і госьці з Беларусі і Літвы.

Роўна 23 гады назад, 27 ліпеня 1990г. Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб Незалежнасьці Беларусі. Сябра ТБК Алесь Адамковіч у прамове, прысьвечанай гэтай гістарычнай падзеі, нагадаў пра тагачасную палітычную сітуацыю ў Беларусі, пра супраціў камуністычнай бальшыні ў Вярхоўным Савеце, пра мужнасьць і мудрасьць дэмакратаў і іх поспех, вынікам якога стала прынятая Дэкларацыя. А.Адамковіч таксама даў сваю ацэнку сёньняшняга стану Беларусі. З улікам цяперашняй сытуацы з мовай, нацыянальнай сымболікай, гвалтоўнага перасьледу дэмакратычнай апазыцыі і курсам на аб'яднаньне з Расеяю, даводзіцца канстатаваць, што нацыянальная незалежнасьць Беларусі знаходзіцца пад пагрозай яе страты.

Другая па часе падзея ў гісторыі сучаснай Беларусі - 20-ыя ўгодкі Першага зьезду беларусаў сьвету. Сябра ТБК В. Акуневіч нагадаў удзельнікам імпрэзы пра той незабыўны час гуртаваньня, агульнай працы ўсіх нацыянальна-сьвядомых сілаў у Беларусі і ў замежжы дзеля адраджэньня Бацькаўшчыны. Грамадзкая арганізацыя Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" ў 1992г. прапанавала склікаць сусьветны беларускі форум. Ідэя была падтрымана. Першы зьезд беларусаў сьвету адбыўся ў Менску 8-10 ліпеня 1993г. Ён праходзіў сьвяточна, у опэрным тэатры, было 1200 удзельнікаў.

Нельга без хваляваньня і ўзрушэньня чытаць прамовы ўдзельнікаў зьезда, і тых, хто ў далёкім замежжы столькі дзесяцігодзьдзяў летуцелі пра Бацькаўшчыну. І тых нашых суродзічаў, якія прайшлі выпрабаваньні ГУЛАГу і працягваюць жыць там, у рэгіёнах Расеі, дзе і цяпер іх папракаюць, што яны былі здраднікамі. Агульная турбота нашых суродзічаў з далёкага і бліжняга замежжа пра стан мовы ў Беларусі, пра незалежнасьць і нацыянальнае адраджэньне.

Мінула 20 гадоў, ужо Шосты зьезд беларусаў сьвету адбыўся цяпер у Менску.

Трэцяя частка імпрэзы ТБК была прысьвечана памяці Леаніда Караля. Спадар Леанід на працягу дзевяці гадоў быў актыўным сябрам нашага Таварыства. Аб гэтым на імпрэзе дзяліліся ўспамінамі Хведар Нюнька, Андрусь Старавойтаў, таксама спадарыня Зінаіда Кароль - жонка Леаніда. Шмат добрых спраў зьдзейсьніла ТБК у той пэрыяд, каб аднавіць і захаваць памяць пра беларускую гісторыю Вільні. Леанід Кароль быў ініцыятыўным сябрам і шчырым беларусам. 14 ліпеня сёлета споўнілася ўжо 15 гадоў як ён памёр. Добрая памяць пра Леаніда натхняе ўсіх тых, хто працаваў на ніве беларушчыны разам зь ім, і тых, хто далучыўся да суполкі ТБК пазней.

Апошняя частка імпрэзы была прысьвечана 15-м угодкам Другой канфэрэнцыі беларусаў Балтыйскага рэгіёну, якую ініцыявала і правяло ТБК. Гэта адбылося ў 1998г. у Вільні. Адметнасьць той канфэрэнцыі ў тым, што тады адбыўся раскол сярод беларусаў. Раскол па палітычных поглядах. На тых, хто адвярнуўся ад нацыянальных каштоўнасцяў: ідэяў БНР, канстытуцыі, нацыянальных сімвалаў і падтрымаў новы антыдэмакратычны курс, які пачалі ажыцьцяўляць уладныя структуры ў Беларусі. Пра падзеі на той, другой канфэрэнцыі распавёў Хведар Нюнька. Удзельнікі імпрэзы паглядзелі архіўны кіназапіс.

Госьці зь Беларусі, якія прадстаўлялі Брацтва Сьвятых віленскіх пакутнікаў, прэзэнтавалі свае новыя кніжкі, прызначаныя для вернікаў беларускай праваслаўнай царквы. Тое, што ўсе кніжкі на роднай мове, выклікала зацікаўленьне да гасьцей і іх рэлігійнай працы ў Беларусі. Ад імя гасьцей, якіх было пяць чалавек, выступаў спадар Мікалай Матрунчык.

Удзельнікі імпрэзы атрымалі падарунак ад украінцаў. Сям'я Рамана і Аксаны Ластаўяк - прафэсійныя музыкі-сьпевакі - ужо шмат гадоў радуюць нас, беларусаў Віленшчыны, сваім майстэрствам. Яны і на гэты раз свае песьні на ўкраінскай мове падабралі з улікам тэматыкі імпрэзы. Як заўжды, украінскія сябры ня толькі сьпявалі для нас, яны актыўна выступалі ў дыскусіях па хвалюючых нас праблемах мовы, нацыянальнага адраджэньня, гуртаваньня і ўзаемападтрымкі. Таму і гэтым разам сям'я Ластаўяк была ўдзячна прынятая ўдзельнікамі імпрэзы.

*В.а. старшыні ТБК Васіль Акуневіч, Вільня*

# Весткі з Севастопалю




18 ліпеня беларусы Севастопалю арганізавалі пікет у падтрымку палітзьняволеных у Беларусі. Ён быў праведзены каля помніка Аляксандру Казарскаму, беларусу паводле паходжаньня. Вязьні рэжыму – гэта нашыя беларускія героі, годныя нашчадкі адважнага камандзіра брыга “Меркурый”, які уступіў у бой з ворагам, што меў перавагу ў сіле, але перамог. Гэта таксама годныя нашчадкі слыннага кіраўніка паўстаньня 1863-64 г.г. Кастуся Каліноўскага, не зважаючы на пакуты і цяжкасьці, яны выконваюць запавет аўтара гімна “Пагоня” Максіма Багдановіча, дэманструюць сваю мужнасьць і вернасьць ідэалам свабоды і адданасьці свайму народу, любоў да сваёй нацыі і роднай мовы. Гонар вам і слава! Праўда пераможа! Пагоні не разьбіць, не спыніць, не стрымаць!

Жыве Беларусь!

*Старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў і мя Максіма Багдановіча " Пагоня"*
*Валер Барташ*




19–20 ліпеня ў мястэчку Гарадок каля польска-беларускай мяжы прайшоў традыцыйны музычны фэстываль «Басовішча». У ім прынялі ўдзел такія вядомыя гурты, як The Toobes, Akute, Dzieciuki, Perkalaba.

Фэстываль праходзіў 24-ы раз, першы фэстываль быў арганізаваны Беларускім аб'яднаньнем студэнтаў (ад абрэвіятуры арганізацыі — БАС — паходзіць назва фэстывалю) у ліпені 1990 году.

З таго часу галоўны цяжар арганізацыйна-лягістычнай працы перад і ў часе фэстывалю традыцыйна бяруць на сябе беларускія студэнты з Беласточчыны.

На сёлетнім фэсьце арганізацыйнымі пытаньнямі займаліся ўжо дзеці заснавальнікаў «Басовішча». Сярод іх, напрыклад, Ганна Пякарская, студэнтка другога курсу культуралёгіі — дачка Барбары і Міраслава Пякарскіх, якія арганізавалі першае «Басовішча». Таксама Аляксандар Ваўранюк, сын Аліны і Міколы Ваўранюкоў, якія арганізоўвалі «Басовішчы» ў першай палове 1990-х.

Ганна Пякарская разам з 30 іншымі сябрамі БАСу і валянтэрамі са студэнцкага асяродзьдзя рупілася пра тое, каб сёлетняе «Басовішча» адбылося без аніякіх арганізацыйных збояў: «Басовішча заўсёды арганізоўвалі студэнты і заўсёды рабілі гэта бясплатна. Мы працягваем гэтую традыцыю і таксама не бярэм грошай за арганізацыю фэстывалю. У фэстывалі грошы не найважнейшыя. Тут мы шмат чаму вучымся, шмат з кім знаёмімся, шмат чаго даведваемся».

Выразная зьмена пакаленьняў наступіла ня толькі сярод арганізатараў фэстывалю ў Гарадку, але і сярод яго выканаўцаў. Сьпіс сёлетніх выступоўцаў - гэта ўжо музыка сучаснай маладой Беларусі.

Сёлета арганізатары разбавілі музычную праграму фільмамі, маляваньнем ды іншымі цікавосткамі. Можна было таксама паглядзець нашумелую кінастужку «Жыве Беларусь», а пасьля танчыць пад музыку ў выкананьні рэпера Вінцэнта.

Тэхнічная арганізацыя фэсту была на добрым узроўні. Жыцьцё ў фэстывальныя дні віравала там і днём, і ноччу — песні, гульні ды новыя знаёмствы. Нараканьні некаторых гасьцей выклікаў сьпіс музыкаў : «Няма монстраў беларускай музыкі, заўсёднікаў «Басовішча». Няма ні «Крамы», ні «Нейра Дзюбеля», ні NRM ці Вольскага».

Але у цэлым, як кажуць, сёлетняе «Басовішча» не падкачала, нягледзечы на неспрыяльнае надвор'е. Хто жадаў, той танчыў да страты прытомнасьці, сьпяваў песьні на беларускай мове ці ўволю размахваў бел-чырвона-белымі сьцягамі, якіх, як заўсёды, было багата.

*Паводле інфармацый Радыё Свабода і «Нашай Нівы»*

# Навіны з Вялікабрытаніі

8 чэрвеня ў Лёндане адбыўся 67-ы гадавы зьезд Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. На зьезьдзе былі прынятыя зьмены ў Статут арганізацыі, у якім цяпер адмыслова акрэсьленыя мэты ЗБВБ як грамадзка-палітычнай арганізацыі, якая кіруецца ў сваёй дзейнасьці ідэаламі незалежнай і дэмакратычнай Беларусі, акрэсьленымі ў Акце 25 сакавіка 1918 года.

Адметнай падзеяй зьезду стаўся сыход з пасады шматгадовае старшыні Згуртаваньня сп. Алены Міхалюк, якая пажадала перадаць кіраўніцтва малодшаму пакаленьню. Разам са сваім мужам, нябожчыкам Янам Міхалюком, які ўзначальваў ЗБВБ цягам 25 гадоў, сп. Алена стаяла ля пачаткаў беларускага жыцьця ў паваеннай Брытаніі.

У 1997 годзе пасьля сьмерці мужа сп. Алена пераняла кіраўніцтва арганізацыяй і ад таго часу заслужыла глыбокую павагу сярод беларусаў за сваю самаахвярную працу. Яе цьвёрдыя перакананьні і адданасьць беларускай ідэі паспрыялі ўмацаваньню ЗБВБ у той час, калі беларуская дыяспара перажывае зьмену пакаленьняў. На знак пашаны зьезд надаў сп. Міхалюк тытул Ганаровай старшыні ЗБВБ.

У выніку выбараў ЗБВБ ўзначаліў Мікола Пачкаеў, шматгадовы сябра арганізацыі, які да гэтага выконваў абавязкі заступніка старшыні. У сваёй прамове сп. Пачкаеў запэўніў зьезд, што будзе пільна захоўваць прынцыпы, на якіх Згуртаваньне было заснаванае ў 1946 годзе, і шукаць належныя выразы для гэтых прынцыпаў у новых абставінах.

# Ліст у рэдакцыю

Паважаная Рэдакцыя!

Я наважыўся напісаць пра мой погляд на артыкул сп. Алега Аблажэя (маецца на ўвазе артыкул А.Аблажэя “Прышпільная мова”, надрукаваны ў нумары за красавік-травень 2013 – **Рэд.** ). Як я бачу, гэты артыкул уводзіць чытача ў разьбежнасьць. Слова “Баўгарыя “гучыць па-беларуску адпаведна, “Балканы” бязь зьмены – Balkany. Што тычыцца да заўвагі на словы Янкі Станкевіча – “тутака, тамака”, імі можна карыстацца нават з гутарковай мовы “тутачкі, тамачкі”. Людзі ўжываюць нашыя словы, ня шкодзячы мове ані-ні.

Сп. Аблажэй імкнецца, каб не было словаў у мове беларускай, калі такіх словаў няма ў расейскай мове. Вось слова “самалёт”, да вайны я ня чуў гэтага слова, казалі “аэраплан” (з ангельскай Aeroplane).

Для апісаньня якогась рэгіёну слова дадзенай мясцовасьці дасьць калярыт – як там людзі размаўляюць. Словы са слоўніка Янкі Станкевіча адпавядаюць многім рэгіёнам нашай краіны (Беларуска-расейскі (Вялікалітоўска-расейскі) слоўнік, выд. 1990 г.). Для мяне слоўнік Янкі Станкевіча прыгодны да беларускай мовы лепш, чым Руска-беларускі слоўнік пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы, П. Глебкі. Гэты іхны слоўнік такі, што немагчыма ім карыстацца, вядзе ў тупік, зусім зрусіфікаваныя словы, словы ў ім немілагучныя.

Вялікі цуд, што ў савецкі час былі пісьменьнікі, якія пісалі добра па-беларуску. Цяперашні час няма чаго хваліць, але людзі так ці інакш любяць нашу мову.

*Кастусь Верабей*

# Каляндар памятных датаў на люты 2013 году

**2 верасьня** – 65 гадоў таму, у 1948 годзе, у Лювэне ўтворана Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў пад кіраўніцтвам Барыса Рагулі

**2 верасьня** - 15 гадоў таму, у 1998 годзе, памёр Ян Матусевіч, уніяцкі сьвятар, удзельнік адраджэнскага руху

**2 верасьня** - 15 гадоў таму у 1998 годзе, памёр Мікола Гайдук, пісьменьнік, публіцыст з Беласточчыны

**3 верасьня** – 35 гадоў таму, у 1978 годзе, у Рыме памёр Пётр Татарыновіч, сьвятар, грамадзка-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Ватыкане

**4 верасьня** - 120 гадоў таму, у 1893 годзе, нарадзіўся Юзэф Фарботка, паэт, грамадзка-культурны дзеяч

**6 верасьня** – 110 гадоў таму, у 1903 годзе, нарадзіўся Мікалай Дварэцкі, грамадзкі дзеяч, паэт, жыў у Польшчы

**7 верасьня** – Дзень беларускага пісьменства і друку

**8 верасьня** – Міжнародны дзень салідарнасьці журналістаў

**10 верасьня** – 120 гадоў таму, у 1893 годзе, нарадзіўся Аляксандр Ляўданскі, археоляг

**11 верасьня** – 145 гадоў таму, у 1868 годзе, памёр Рамуальд Зямкевіч, фальклярыст, энограф, археоляг

**14 верасьня** – 90 гадоў таму, У 1923 годзе, нарадзіўся Янка Баран, дзеяч эміграцыі ў Канадзе

**15 верасьня** – 100 гадоў таму, у 1913 годзе, нарадзіўся Рыгор Зыбайла, вайскова-палітычны дзеяч, старшыня Слонімскай акруговай Беларускай Народнай Самапомачы

**19 верасьня** – 75 гадоў таму, у 1938 годзе, памёр Браніслаў Туронак, культурна-грамадзкі дзеяч (бацька Юры Туронка)

**20 верасьня** – 110 гадоў таму, у 1903 годзе, нарадзілася Натальля Арсеньнева, паэтка, дзеячка эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**21 верасьня** – 95 гадоў таму, у 1918 годзе, нарадзіўся Фёдар Янкоўскі, мовазнавец

**24 верасьня** – 120 гадоў таму, у 1893 годзе, нарадзілася Паўліна Мядзёлка, дзеяч культуры

**25 верасьня** – 100 гадоў таму, у 1913 годзе, нарадзіўся Сяргей Грахоўскі, пісьменьнік

**27 верасьня** – 480 гадоў таму, у 1533 годзе, нарадзіўся Стэфан Баторы, вялікі князь літоўскі і кароль польскі

**28 верасьня** – 60 гадоў таму, у 1953 годзе, у аўтакатастрофе загінуў Базыль Камароўскі, пісьменьнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе

**28 верасьня** – 20 гадоў таму, у 1993 годзе, памерла Галіна Макарава, артыстка

**29 верасьня** - 190 гадоў таму, у 1823 годзе, нарадзіўся Уладзіслаў Сыракомля, беларускі і польскі паэт, пісьменьнік, публіцыст

## Ня стала Яраслава Станкевіча



Шаноўнае спадарства! Дарагія сябры!

Ня стала яшчэ аднаго шчырага, нацыянальна-сьведамага прадстаўніка беларускай інтэлігенцыі ў Вільні, адыйшоў у лепшы сьвет яшчэ адзін актыўны грамадзкі дзеяч – сябра Віленскага беларускага таварыства палітычных вязьняў і ссыльных – Яраслаў Станіслававіч Станкевіч.

Яраслаў Станіслававіч належаў да той кагорты людзей, якіх ня трэба было пераконваць у навіслай над краем і яго народам пагрозе – ён сам цудоўна гэта разумеў і сам неаднойчы выказваў сваю занепакоенасьць гэтым.

Нарадзіўся Яраслаў Станіслававіч 11 лістапада 1929 года ў Вільні, у сям'і слыннага беларускага кнігара, паэта і перакладчыка, выдаўца і заснавальніка вядомай на ўсю акругу Віленскай беларускай кнігарні – Станіслава Лявонавіча Станкевіча. Яго дзяцінства прайшло ў атачэньні беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, вучняў і выкладчыкаў Віленскай беларускай гімназіі, у якой ён пазьней і сам вучыўся.

Пасьля вайны, з усталяваннем у Вільні чарговага акупацыйнага рэжыму, яго бацька быў арыштаваны і пазбаўлены волі.

Выжыць у тых умовах, з кляймом сына "ворага народа", а тым больш атрымаць адукацыю, было вельмі няпроста. Але Яраслаў Станіслававіч ня толькі выжыў, ня толькі не зламаўся, але, як толькі гэта стала магчымым, сам стаў дапамагаць маці і сваёй малодшай сястры Міраславе. Тым часам вярнуўся, неўзабаве пасьля сьмерці Сталіна, бацька. Засталіся ззаду гады вучобы ва ўнівэрсытэце. Жыцьцё стала лягчэй.

Калі напрыканцы 80-х у Вільні зьявіліся першыя беларускія грамадзкія арганізацыі, Яраслаў Станіслававіч, не задумваючыся, далучыўся да іх дзейнасьці, а пасьля, са зьяўленьнем тут беларускай школы, стаў выкладаць у ёй хімію.

Нягледзячы на свой паважны ўзрост, Яраслаў Станіслававіч заўсёды быў лёгкім на пад'ём і пасільны ўдзел у грамадзкай дзейнасьці, у тым ліку, у дзейнасьці Віленскага беларускага таварыства палітычных вязьняў і ссыльных.

Няма ўжо ні Зоські Верас, ні Янкі Багдановіча, ні братоў Юркі і Лявона Луцкевічаў… Ня стала вось і Яраслава Станкевіча.

Але, менавіта дзякуючы ім і такім як яны, Вільні заўсёды быў уласьцівы беларускі дух. Уласьцівы гэты дух нашаму гораду і зараз!

Вечная ім памяць!

*Валянцін Стэх, Вільня*

## *Вітаньне сп. Марыі Ганько*

*Згуртаваньне беларусаў Канады зычыць хуткага выздараўленьня адной з найстарэйшых сяброваў арганізацыі - спадарыні Марыі Ганько, якая нядаўна перанесла цяжкую хваробу. Дарагая спадарыня Марыя, хутчэй набірайцеся сіл і здароўя! Няхай вас падтрымліваюць нашыя думкі, самыя найлепшыя зычэньні і самыя шчырыя малітвы! Мы вас вельмі любім!*

*Рэдакцыя газэты далучаецца да гэтых цёплых пажаданьняў сп. Марыі Ганько, як адной з нашых даўніх ахвярадаўцаў і чытачоў*

## Увага!

У ЗША выйшла з друку кніга Янкі Запрудніка "Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі. Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948-2011 гг.)" - "Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey. Political Information through the Language of Art (1948-2011). New York, 2013".

Кніга выдадзена пад эгідаю Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва.

Гэтая кніга-альбом павінна зьявіцца ў кожнай беларускай сям'і – хаце і быць напамінам цяперашняму беларускаму пакаленьню ў дыяспары пра папярэднікаў ды як служыць Беларусі на чужыне.

Кошт выданьня – $ 40 плюс $ 10 за дасылку.

Падпішчыкам кніга будзе дасланая з аўтографам аўтара.

Зьвяртацца: BINIM
330 Park Str.
Haworth, NJ 07641
Ці на электронны адрас :
janzap@aol.com

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты
Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.
**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432 USA***
**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** ***BIELARUS newspaper***
дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.
**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**
*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*